СПЕЦЫЯЛЬНЫ ВЫПУСК «ПАДПІСКА—93»




БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 37 (13569)

7— 13 верасня 1992 года

Кошт 3 рублі.


## У НАС САКРЭТАЎ НЯМА!

Затое нам ёсць што сказаць нашым чытачам. Мы не маўчалі нават у тыя часы, калі становішча было катастрафічным для прэсы наогул, а "Чырвонкі" — асабліва. Хочам звярнуць увагу на тое, што яшчэ ніводнага разу мы не прапусцілі чарговага нумара, не выпускалі спараных выпускаў, не выходзілі фарматам паштоўкі. Не праводзілі мы і перападпіску. Так будзем трымацца і ў наступным годзе.

Нас часта пытаюць: каго ж вы прадстаўляеце, хто за вамі стаіць? Адказваем адназначна: мы прадстаўляем толькі інтарэсы Беларусі, такім чынам інтарэсы яе грамадзян, нашых чытачоў. Нам блізкія погляды тых, хто душой і сэрцам разумее веліч задачн — дасягненне сапраўднай незалежнасці, за якой стаяць і эканамічны, і духоўны дабрабыт. Мы разумеем, што наш малады чытач, перад якім, магчыма, ужо стаіць прывід беспрацоўя, з цяжкасцю зможа выдзеліць на падпіску грошы. Але не думаем, што ён стане ад гэтага бяднейшым. Тое багацце, што нясе "Чырвоная змена" — не падлічваецца ў банку. Яно напаўняе душу, нясе ўпэўненасць у тым, чаго так не хапае ў нашы непрадказальныя часіны.

**"Чырвоная змена" — з вамі!**

БЕЗДУХОЎНАСЦЬ

КРЫЗІС

КАТАСТРОФА

КРАХ

Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету 63129 (індэкс выдання)

Чырвоная змена — Колькасць камплектаў

на 1993 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | X | X | X | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

---

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА

ПВ | месца | літар — на газету 63129 (індэкс выдання)

Чырвоная змена

| Кошт | падпіскі | 108 руб. 00 кап. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ___ руб. ___ кап. | |

на 1993 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | X | X | X | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

Гэта была апошняя 15-капеечная манета. Дзве папярэднія бязлітасна зніклі ў жалезным страўніку глухога да маіх просьбаў тэлефона-аўтамата. Я трымала астатнюю манетку за рабрыстую аблямоўку і не спяшалася апусціць яе ў вузкі жолаб. Я хітравала: няхай на другім канцы дроту падымуць трубку, тады й адпушчу, ні на хвілю раней. Урэшце шчоўкнула, пачулася "алё", я расціснула пальцы і манетка слізганула ў прагнае тэлефоннае нутро. "Алё, алё...". О, Божа, мяне не чуюць. Гэта жалезнае страшыдла бессаромна глытае манеты. Я ляснула кулаком па халоднай пысе аўтамата. Мяне не чуюць. Страчана апошняя манета. Іншай мне нізавошта не знайсці. Я павесіла глухую слухаўку, рэзка крутнулася на абцасах. Усё. Цяпер мяне не адцягне ад мэты нават НЛА. Хаця перыёдыка прывучыла: НЛА – хоць і фенаменальная з'ява, але не такая ўжо і рэдкая. Вось, дарэчы, і НЛА – лёгкі на ўспаміні – але я ўсё-такі скажу, ці не, лепш напішу.

Шаноўныя чытачы – пакрыўджаныя, знявераныя, стомленыя. Апошні паратунак для Вас – падпіска на "ЧЗ". "ПАС" жа і надалей будзе прытрымлівацца гуманістычнай пазіцыі і за ўсімі палітычнымі падзеямі бачыць перш-наперш лёс канкрэтовых людзей, а не ідэалагічныя тэорыі, праграмы, планы.

Мы ўсё памятаем, як яно было раней. Як рабілася *палітыка ў газетах*. Чорным петытам набіралася пра жыццё там, за мяжой, светлым – пра нашае, мясцовае. Тамака, нат тлусты шрыфт павінен быў гэта пацвердзіць, жыццё страшнае, змрочнае, без аніводнага прасвету; тутака – яснае, шчаснае, светлае. Аднак выдзеленае тлусцейшым, прыцягвала ўвагу, светлыя літары губляліся. Але гэта дробязі. Невядомае забароненае заўсёды болей прыцягвае, чымся даступнае й звыклае. Вас чакае падарожжа ў няведамае. А гэта так прыцягальна!



"ПАС" падрыхтавала Алена АГІБАЛАВА, рэдактар аддзела па пытаннях палітыкі. тэл. 39-87-94.

*Журналісты ведаюць — іхні нататнік як айсберг: толькі траціна пазначанага ў ім застаецца на паверхні. Яна бачна чытачам праз газетныя радкі. Астатнія ж дзве траціны застаюцца не скарыстаныя, быццам схаваныя пад тоўшчай вады. Дык вось зараз — пра гэтую падводную частку, так і не ўжытую па розных прычынах у ранейшых артыкулах. Такім чынам, дзве траціны думак, трывогі, болю...*

# Апошняя кропля

## З журналісцкага нататніка: эпізоды і асацыяцыі

* * *

Мінулае. Вось ужо каму дасталося. Перетрэсенае як старая вопратка ў ня менш старой шафе, яно аказалася ў шчэнт з'едзеным моллю. Прайшоў яшчэ адзін год. Баліць — не баліць, смыліць — не смыліць (былое ўсё-ткі!) — скінулі з плеч далоў цэлы год (падпісны, зразумела). Годзе! Час за іншае брацца. Ельцын, Шушкевіч, Кебіч, Бейкер; СНД, РБ,.. апазіцыя, прапазіцыя і папросту пазіцыя... Усё! Хто, што і дзе б ні гаварыў, ужо ранейшай слодычы няведання нам не спазнаць. Спапялёны "рай". Бо рай, калі чалавек як дзіця не ведае, што дзеецца вакол яго, у якім рэальным становішчы ён знаходзіцца. Гэтага забыцця мы ўжо ніколі не здабудзем. І адкрыліся нам вочы, і ўбачылі мы сябе без ідэалаў, без веры і нават без звыклых дагматаў. Сталі разгубленыя. Куды рушыць, што рабіць, за што брацца-хапацца? Адказу ніадкуль не чуваць. "Уверсе" гамоняць, законапраекты спраўна пякуць. Апазіцыя пуп і галасавыя звязкі надрывае, астатнія быццам у летаргічным сне. І ўрад і парламент сталіся "блізнятамі-братамі". А ўсё няма адказу, што ж рабіць? Ну пра тое, хто вінаваты, здаецца, ужо ўсё сказана. Варта прыгадаць класіка суседняй і блізкай па агульнай справе СНД дзяржавы — Расіі. Салтыкоў-Шчадрын распавёў, як у горадзе Глупаве, перш чым распачаць нейкія перамены, па чарзе скідвалі са званіцы аднаго Івашку за другім. Скідваюць так сабе скідваюць, а жыццё ўсё лепшым не становіцца. Задумаліся глупаўцы. А мы?

* * *

— Любое рашэнне, на якім бы ўзроўні яно не прымалася, перш чым быць ажыццёўленым, павінна праламіцца праз канкрэтную свядомасць канкрэтнага чалавека. Для біялагічных сістэм час, за які адбываюцца змены, параўнальны (і залежыць!) ад часу фармавання сістэмы. Ад нараджэння да станаўлення нашай грамадскай сістэмы прайшло прыкладна 70 гадоў. За гэты тэрмін узгадаваліся фактычна два пакаленні. Ня можа створаная за 70 гадоў змяніцца імгненна,— так гаварыў малады біёлаг у прыёмнай прарэктара БДУ Станіслава Шушкевіча. Малады навуковец цікавіўся праблемамі фізіялогіі мозгу... Станіслаў Станіслававіч спяшаўся на другі з'езд народных дэпутатаў СССР. Выбары ў беларускі парламент былі яшчэ наперадзе. Праз год краіна, якой болей за 70 гадоў, ледзь ці невокамгненна, але канчаткова і беззваротна, разваліцца ў Віскулях. Пад шатамі Белавежскай пушчы.

* * *

Калісь мая бел-чырвона-белая кайстра выклікала ўмоўны рэфлекс ва ўсіх міліцыянтаў. Асабліва ў Доме ўраду. Хаця выраблена яна была не кааператывам ад БНФ і не расфарбавана мною ў пагоні за нацыянальна-вызваленчым рухам. Гэта быў тавар з ЧССР, аздоблены бел-чырвона-белымі палосамі, згодна нейкіх спецыфічных канонаў прамысловага дызайну. За час службы на карысць маёй журналісцкай планідзе, "хуліганская" сумка неаднаразова ставіла мяне ў даволі пікантныя сітуацыі. Але расстацца з гумавай торбай я ніяк не магла, бо з'яўляюся чалавекам звычак. Неяк дэлегаты апошняга партз'езда (афіцыйна праведзенага) сабраліся ў Доме палітасветы на прэс-канферэнцыю. І вось у зале ўжо заняты ўсе крэслы і аўтарка гэтых радкоў, крышачку запознена, па прыступках, на вачах у дэлегатаў-партыйцаў ідзе праз усю залу. Раптоўна стала нібы цішэй. Усе позіркі як магнітам прыцягнула мая вялізная кайстра. Напачатку я нічога не зразумела, а пасля... Яна ж, вялізная — як сцяг, да таго ж — бел-чырвона-белая... Зараз яна выклікае проста ўсмешку. Ды састарэла ўжо. Замартызавалася відаць пад нядобразычлівымі позіркамі. Ды Бог з ёю! Забароненае заўсёды больш прыцягальнае, чымся дазволенае.

* * *

— У Доме ўраду ўсё было, як кажуць, пад рукамі. Цэкоўскі будынак звонку яшчэ нішто сабе, знутры ж — мармуровая турма. Мне прыемна было праз вокны глядзець на пляц з новай назвай — пляц Незалежнасці. Відаць, гэтаксама было і астатнім дэпутатам. Настрой лёгкасці, прыўзнятасці цараваў пад дахам Дома ўраду. Цэкоўскія муры ўжо не надаюць гэткай лёгкасці, быццам прыціскаюць да зямлі сваімі змрочнымі сутарэннямі. Лічу гэты пераезд дарэмным. На пляцы Незалежнасці былі мы ў цеснаце, але ж без крыўды.— Гэтыя словы сарваліся з вуснаў Анатоля Лябедзькі ў адказ на маё пытанне: "Ці радуе дэпутатаў пераезд у будынак ЦК КПБ?" Сапраўды, даношваць за нябожчыкам рэчы не надта прыемна. Што ж рабіць з шыкоўным гмахам? Найлепшае выйсце — аддаць ЦК дзецям. Я не жартую. Так-так, насуперак усім цвярозым довадам: занадта дорага, неразумна і г.д. Эпоха наклала непазбыўны адбітак на гэтую будыніну і толькі дзеці, якія не запэцканы грахамі мінуўшчыны, здолеюць змякчыць зачарсцвелую душу партыйных муроў. Ды, калі па шчырасці, ад застояў, перабудоў і да т.п. церпяць перш-найперш менавіта дзеці...

У каторы раз хаджу каля гэтай імпартовай шакаладкі. Куплю, далібог куплю, няхай парадуецца малая. А ЦК усё-ткі варта было ператварыць у Дзіцячы палац ці Палац дзяцей, ці яшчэ нешта накшталт гэтага. Спадзяюся, гэтую думку не палічаць за вар'яцтва, ці, яшчэ горш, за экстрэмізм. Але, відаць, спішуць на "несаліднасць і маладзёжнасць "выдання. Не забывайцеся ж, шаноўныя спадары, што чалавецтва павінна смеючыся развітвацца са сваім мінулым. Але развітання якраз і не адбылося. Відно... Па ўсяму...




* * *

Апошнім часам усё часцей і часцей чуваць, што контррэвалюцыя збірае свае сілы для вырашальнага бою. Пра падпольную змову наменклатуры і пра тое, што зараз больш небяспечны час для дэмакратыі, чым жнівеньская спроба дзяржаўнага перавароту. Побач з гэтым адчуваецца спроба дэмакратаў абараніцца ад абвінавачванняў — тых, якія ўжо гучаць, дый, авансам, ад будучых папрокаў. А папракнуць новую ўладу ёсць у чым. Гэта яна, пэўне, і сама адчувае, больш, чым астатнія. Непрафесіяналізм, інфантыльнасць новых палітыкаў бачна няўзброеным вокам. Яны робяць памылку за памылкай. Зрынутыя ж партыйцы вядуць прагны ўлік хібаў новай улады.

Калі на экране тэлевізара спачатку ўзнікае ўважлівы, задумёны твар дэпутата, які працуе на сесіі, а пасля камера спакваля слізгае на часопіс з крыжаванкай (яе разгадвае народны абраннік пад час сесіі), то хіба гэта не інфантылізм? Чалавек не проста "не апраўдвае давер выбаршчыкаў", ён дыскрэдытуе самі ідэі, з якімі дэмакраты прыйшлі да ўлады.

* * *

Шырокія масы працоўных працягваюць беднець. У Расійскім урадзе ўзнік новы тэрмін, замесц "спажывецкага кошыка" — " фізіялагічная норма"(чытай: "каб не памерці з галадухі"). Беларусь, якая доўгі час трымала нізкую планку ў цэнах, уцягнулася ў іхнюю гонку, услед за сваімі суседзямі.

Нам увесь час даводзяць, што ў народа не выспела разуменне дэмакратыі. Мы, маўляў, не гатовыя да яе. Калі блуканне па чэргах перамешваецца з сузіраннем салонных вячэраў па тэлебачанню, вельмі цяжка набыць гэта самае "разуменне". Прадпрымальнікі, банкіры, прыгожыя паненкі ў дакастрычніцкіх дэкальтаваных сукенках — карацей, вяршкі грамадства,— на тэлеэкране мецэнацтвуюць, дабрачыннічаюць і проста п'юць прамяністае шампанскае. Па шчырасці, ад гэткіх відовішчаў маё пралетарскае нутро, народжанае ў хрушчоўскую адлігу, выхаванае брэжнеўскім застоем, пратэстуе супраць такой раскладкі жыццёвых даброт. Я яго пераконваю, што нельга зайздросціць чужому дабрабыту, што гэта перажыткі мінулага, што заможнае жыццё — вынік працы, творчасці, здольнасцей. Але... Але нутро маё адказвае: "На самай справе неабуржуазія ў сваёй большасці — былая наменклатура, якая папросту легалізавала накопленыя пад час застою капіталы. Нам жа засталася абрабаваная да ніткі краіна, пакінутая дэмакратам у чым маці нарадзіла."

* * *

"Я не люблю фатальнага зыходу і стомы ад жыцця не спазнаю..." Нават у перакладзе вы пэўна пазналі песню "Споведзь" Уладзіміра Высоцкага. А колькі такіх жыццесцвярджальных радкоў напісаны рукамі людзей, што не жылі — ішлі "па самаму па краю" бездані...

Ля аднаго з пад'ездаў гэтага дома прама на брудным снезе ўсю зіму бачны былі кветкі. Чырвоныя. Некалі тут жа ляжала цела дзяўчынкі-дзесяцікласніцы, прыкрытае белай прасцінай, акружанае здранцвелымі ад жудасці суседзямі. Раскрытае акно на восьмым паверсе. Непатрэбны выклік "хуткай дапамогі". Позна.

А тут кожны дзень з самай раніцы: Азербайджан наступае, Арменія — адступае; Арменія наступае — Азербайджан адступае. Дзесяткі, сотні загінуўшых. Ужо толькі ў лічбах, без імёнаў і прозвішчаў. Мы пішам кнігу памяці пад дэвізам : "Успомнім усіх паімённа". Пра ахвяры Вялікай Айчыннай вайны. Радыё ж працягвае бязлітасна адлічваць — загінула дзесяць, дваццаць... сто... тысяча... чалавек. Без імёнаў і прозвішчаў. Пра гэта трэба гаварыць кожны дзень. З раніцы да позняй ночы. І толькі пра яе — каштоўнасць чалавечага жыцця. Яна павінна стаць нашай ідэялогіяй, нашымі праграмамі — мінімумам і максімумам, сэнсам усіх адраджэнняў: дзяржаўнага, народнага, нацыянальнага; вынікам любых уваходжанняў: у Еўропу, у міжнародную супольнасць, цывілізацыю, цэлы свет.

Алена АГІБАЛАВА,
рэдактар па пытаннях
палітыкі "ЧЗ".

Падпіска-93. Наш індэкс 63129.

## Не будзем эканоміць на даверы!

Не сакрэт, што людзям зараз не надта выпадае давяраць прэсе. Ды й не толькі ёй – само жыццё замінае нам станавіцца даверлівымі, выслухоўваць і пагаджацца з кіраўніцтвам.... Гэта як у той показцы: гутараць песіміст з аптымістам. Песіміст: "Не, братка, горш ужо не будзе!" Аптыміст: "Будзе, будзе!" Хто ж мы – аптымісты альбо песімісты? Толькі не баковыя назіральнікі! Бо халодна назіраць, як у чэргах за гуманітарнай дапамогай паміраюць бабулі, як імкліва расце колькасць жабракоў у падземных пераходах, як галодныя старыя лічаць капейкі ля хлебных аддзелаў – значыць маўкліва згаджацца з рэчаіснасцю і ніяк не імкнуцца палепшыць яе. З гэтага пункту гледжання мы і збіраемся падыходзіць да зместу публікацый на эканамічныя тэмы – і цяпер, і ў будучым годзе. На старонках, прысвечаных эканоміцы, вы зможаце прасачыць за зменамі эканамічнага стану – і не толькі прасачыць, але і даведацца, як прагназуюць сітуацыю дасведчаныя асобы – эканамісты, палітыкі, бізнесмены. Дарэчы, мы мусім распавядаць, у прыватнасці, пра малады беларускі бізнес, пра ягонае развіццё, ягоныя хваробы росту, пра ягоныя дасягненні. Увага будзе ўдзелена ўсім сектарам эканомікі – і дзяржаўнаму, і прыватнаму. Ход прыватызацыі, раздзяржаўлення эканомікі, эканамічныя сувязі Беларусі з іншымі краінамі таксама знойдуць адлюстраванне на эканамічных старонках "Чырвонай змены".

Мы вельмі будзем рады непасрэдна ад вас атрымліваць не толькі інфармацыю, але й вашы меркаванні, вашы надзеі, бо голас народа – тое, чаму павінна служыць, ад чаго павінна адштурхоўвацца газета. Спадзяемся на ваш давер, шаноўныя чытачы, бо давяраючы нам, вы давяраеце самі сабе.



Зміцер Лукашук, аглядальнік па пытаннях эканомікі, тэл.39-87-94.

# Гімн гаспадару



Спакон веку зямля лічылася маці багацця. Бацькам жа гэтага багацця была праца — твая праца, Гаспадар! Гэта яна давала і дае жыватворную сілу зямлі, рабіла і робіць яе шчодрай і хлебадайнай. Гэта яна багата ці бедна, але ж карміла і корміць людзей, даючы да стала самае неабходнае для жыцця — харчаванне. Калі ж надаралася ліхалецце (спусташальная вайна ці няўрод) і Гаспадар страчваў сілу над зямлёй, людзей спасцігала жахлівае выпрабаванне — голад. Пра гэта не лішне помніць кожнаму, каб заўжды з удзячнасцю і павагай ставіцца да яго вялікасці Гаспадара — за яго рупнасць і нялёгкую працу, за тое, што ён корміць нас, дае магчымасць жыць і тварыць. Хоць сам ён жыве не дужа ў якой раскошы, а часам, што граху таіць, нават і ў нястачы, без элементарных умоў цывілізаванага быту. Чэзнуць і знікаюць з аблічча зямлі тысячы сельскіх паселішчаў. На вялізных абшарах марнее і траціць урадлівасць гектар. У выніку змяншаецца паток харчавання на наш і без таго небагаты стол.

Што ж здарылася? Чаму вялікая цяпер ужо былая наша дзяржава з такімі аграмаднымі абшарамі зямельных угоддзяў не змагла сябе пракарміць і вымушана кланяцца замежным краінам, каб купіць у іх збожжа і іншыя харчы? Адказ відавочны: мы страцілі Гаспадара зямлі. Паводле слоўніка У.Даля, "гаспадар — уладальнік, уладарны распарадчык, управіцель". Словам, сам сабе галава: ніякага прымусу і камандавання — дзейнічай сабе і людзям на радасць! Можна дадаць, што сапраўдны Гаспадар — гэта яшчэ і творца. Як мастаку трэба нарадзіцца з божай іскрынкай у сэрцы, так і Гаспадару трэба ўзяць у спадчыну ад продкаў талент і майстэрства, каб тварыць на зямлі высакародную і пачэсную справу сейбіта-карміцеля. Не кожнаму нават сельскаму жыхару дадзена спасцігнуць святую таямніцу ўмелага гаспадарання на зямлі.

Як жа мы недаравальна памыліліся, калі на крутым павароце гісторыі замахнуліся на святое святых — на самога Гаспадара: адным махам вырашылі перакроіць, перайначыць уклад яго жыцця, адарваць ад сваёй зямлі, якую яму ўрачыста абяцалі і за якую ён са зброяй змагаўся і ў рэвалюцыю, і ў грамадзянскую вайну. Учынілі ліквідацыю кулакоў, а з імі і сераднякоў — тых, хто здольны быў вывесці вёску з беднаты. Цяпер мы ведаем, што ў Сібір і на Салаўкі саслалі лепшых Гаспадароў. Пад корань падрэзалі не толькі іх саміх, а і маладыя гаспадарскія парасткі — іх дзяцей, будучых Гаспадароў. Тых жа, што засталіся ў калектыўных гаспадарках, фактычна пазбавілі права Гаспадара: камандавалі імі, забіралі амаль увесь калектыўны набытак і ўсё тузалі-павучалі, як трэба жыць і працаваць па-новаму, як і калі араць і сеяць.

Для Гаспадара засталося адзінае сховішча — прысядзібны ўчастак, дзе можна было самастойна выявіць гаспадарскія здольнасці. Але і там даймалі то непамерным падаткам, то абмежаваннямі на гадоўлю жыўнасці. І ўсё ж тут, на невялікай прысядзібнай дзялянцы, гаспадарскія карані куды глыбейшыя. Таму і моц прысядзібнага гектара ў параўнанні з калектыўным у шмат разоў большая. У 1989 г. агульная плошча прысядзібных участкаў на Беларусі складала 7,36 працэнта ўсяго ворыва. Але гэты невялікі прысядзібны клін даў 25 працэнтаў усяго атрыманага ў рэспубліцы малака, 12 — мяса (у забойнай вазе), 37,3 — яек, 50,3 — бульбы, 28,7 — агародніны, 89 працэнтаў садавіны. І гэта ў той час, калі ў многіх вёсках амаль не засталося моладзі, калі многія падвор'і вычарпалі свой працоўны рэсурс і рэзка абмежавалі гадоўлю жыўнасці.

Няхай са спазненнем, але мы зноў вяртаемся да вытокаў разумнага гаспадарання — распачынаем адраджэнне Гаспадара зямлі. Зямельная рэформа прадугледжвае арэнду зямлі, павелічэнне памераў прысядзібных участкаў, выдзяленне зямельных надзелаў для сялянскіх гаспадарак, развіццё фермерства. Свабодны выбар: хочаш — заставайся ў калгасе ці саўгасе, хочаш — бяры зямлю і гаспадарнічай самастойна, твары на ёй сваю высакародную справу.

Будзем рады, калі ў тваіх святых клопатах, Гаспадар, хоць чым-небудзь дапаможа падрыхтаваная для цябе "ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ СЕЛЬСКАГА ГАСПАДАРА". Няхай заўжды будзе ўрадлівай ніва твая! Няхай сядзіба твая будзе ўтульнай і прыгожай! Мір дому твайму! Здароўя і шчасця табе, Гаспадар, на "многае лета"!

Такім тэкстам (замест прадмовы) адкрываецца "Энцыклапедыя сельскага гаспадара".

Пра што канкрэтна гэтая кніга? Цяжэй сказаць, чаго ў ёй няма: бадай, усё, што трэба гаспадару, нават пра тое, як самому выкарыстаць сонца і вецер у гаспадарчых мэтах. Словам, гэта настольная кніга фермераў, арэндатараў, уладальнікаў прысядзібных гаспадарак — усіх, хто гаспадарыць на зямлі. А выйсці ў свет яна павінна ўжо сёлета ў выдавецтве "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі.

Але ці выйдзе? Дарагавізна паперы і паліграфічных работ робяць гэта надзвычай праблематычным. Сельскі Гаспадар і тут можа аказацца абдзеленым. Таму хочацца звярнуцца да ўсіх, хто непакоіцца пра лёс сялянства, змагаецца за рэальнае прыярытэтнае развіццё вёскі: ці не знойдуцца спонсары гэтай так патрэбнай Сельскаму Гаспадару кнігі? Багатыя дабрадзеі вёскі, адгукніцеся!

**У.САЛАНОВІЧ,**
**загадчык рэдакцыі БелЭн,**
**кандыдат эканамічных навук.**

# "Інстытуты для багатых дурняў"

## – так яшчэ называюць прыватныя, "камерцыйныя" ВНУ рэспублікі. Ці справядліва?

Вось уявіце сабе: адбарабанілі вы 4-5 належных гадоў у інстытуце, узялі дыплом пад паху і вырашылі рушыць... у Сарбону. Можна было, канешне, і тут праз годзік-другі да магістра "дацягнуць", ды вам у Сарбоне пашукаць шчасця ахвота. Паглядзяць там на вашыя "корачки" і — о, дзіва! — ласкава запрашаем. На біржу працы ў выпадку няўдачы падасцёся — і там дзверы перад носам не зачыняць: як жа, як жа, чулі пра ваш інстытут, што-небудзь знойдзем. Фантастыка?

Час, канешне, пакажа, дзе тых самых дурняў будзе больш: у дзяржаўным універсітэце, да прыкладу, або ў Інстытуце сучасных ведаў (а менавіта гэтую задачу — дабіцца, каб дыплом выпускніка каціраваўся па-за межамі рэспублікі і СНД — ставіць перад сабой яго кіраўніцтва). Адно я ведаю дакладна: са сваім універсітэцкім дыпломам ні Сарбоны, ні добрай працы за мяжой мне не ўбачыць.

Памятаеце, як стагналі курсам на непатрэбных лекцыях непатрэбных выкладчыкаў (за адным з такіх я некаторы час вяла канспект — лексікон ягоны вельмі падабаўся: "Але тут як бы ні то было!.."), як уцякалі групамі з непатрэбных семінараў, здавалі, дакладней "спіхвалі", залікі, не адкрываючы падручнікаў... Былі, канешне, і ў нас талковыя выкладчыкі, але, на жаль, адзінкі. Іх "насілі на руках", пра іх і за вочы гаварылі з павагай (!), да іх на заняткі хадзілі па ўласнай волі, а пасля заканчэння інстытута доўга прыгадвалі добрым словам. Адзін з іх — Ігар Ільіч Дубінін — вёў у нас невялікі і "нязначны" па тых часах курс. Мне вельмі хацелася яшчэ тады ўзяць у яго інтэрв'ю — не атрымалася. Затое цяпер дапамог выпадак: Ігар Ільіч стаў прарэктарам першай прыватнай ВНУ рэспублікі — Інстытута сучасных ведаў і, па шчасцю, маім субяседнікам.

— У інстытуце закончаны прыём студэнтаў. Можна падвесці нейкія вынікі?

— Прынялі 420 чалавек. З іх 30-35 працэнтаў – "медалісты". Сярэдні прахадны бал атэстата на факультэт "Фінансы і крэдыт" склаў 4,75, на "Эканоміку малых прадпрыемстваў" — 4,53. Гэта да пытання аб "інстытуце для багатых дурняў". Цяпер у нашай ВНУ — а ёй ужо 2,5 года — будзе навучацца каля 800 студэнтаў.

Адкрыю маленькі "сакрэт": абітурыенты ў Інстытуце сучасных ведаў не здаюць уступных экзаменаў. Тут так лічаць: атэстат сталасці — дастатковы паказчык таго, што чалавек можа і наколькі ён сапраўды сталы. Акрамя таго, ці не занадта выпрабаванняў на долю ўчарашняга школьніка, кожны ж экзамен — стрэс. Натуральна, плётак вакол такой сістэмы прыёму больш чым дастаткова: маўляў, раней гэта хабарам называлася — і экзамены ператвараліся ў пустую фармальнасць, а цяпер плаці ў касу 24 тысячы — і паступленне ў кішэні.

— Самае цяжкае, і з гэтага мы пачынаем гутарку з абітурыентамі, — гаворыць Ігар Ільіч, — растлумачыць, што мы вымушаны браць грошы за адукацыю (плацяць яны, дарэчы, не да, а пасля паступлення — Г.С.). Бясплатная, на жаль, аказваецца неэфектыўнай. Прыбыткаў з гэтых грошай ніякіх — усё траціцца на аплату працы прафесарска-выкладчыцкага саставу ( а тут мы не скупімся) і на арэнду памяшканняў.

Жадаеце ведаць, што і як выкладаюць у гэтым інстытуце? Усе студэнты, незалежна ад факультэта, атрымліваюць блокі эканамічных і гуманітарных ведаў, авалодваюць камп'ютэрнай тэхнікай, вывучаюць дзве замежныя і дзелавую беларускую мовы. Арыентацыя — на праграмы, якія апраўдалі сябе на Захадзе. Навучанне дзённае. "Вячэрняя і завочная формы — гэта ў многім толькі прафанацыя адукацыі", — лічыць Ігар Ільіч. Усе выкладчыкі працуюць у асноўным па кантрактах. Запрашаюць сюды і заходніх спецыялістаў. Курс агульнага фінансавага менеджмента і маркетынга, напрыклад, студэнтам чыталі 15 выкладчыкаў з заходняга універсітэта "Антарыа". Дарэчы, тыя, хто авалодаў гэтым складаным інтэнсіўным курсам, атрымалі сертыфікаты "Антарыа". Прафесар амерыканскага універсітэта з Вашынгтона, эксперт Міжнароднага валютнага фонда Гейл Стывенсан на працягу семестра чытала курс фінансавай палітыкі, у снежні паабяцала паўтарыць яго для цяперашняга 1-га курса і прачытаць тэорыю фірм для 2-га.

Тут будуць рыхтаваць менеджэраў, прадзюсараў у галіне культуры, кінематографа — і ў гэтым дапаможа створаны кінарэжысёрам Ігарам Даб-ралюбавым і ягонымі паплечнікамі фонд дапамогі развіццю мастацтва.

За два з паловай гады інстытутам зроблена нямала. З 1-га чэрвеня бягучага года яму — пакуль адзінай з недзяржаўных ВНУ рэспублікі — дадзена права выдаваць дзяржаўныя дыпломы. Ці гэта не афіцыйнае прызнанне?

— Студэнты, канешне, розныя, — канстатуе Ігар Ільіч. — І раскаєзныя — іншая прыйдзе ў такой спадніцы... І сціплыя, твар адной дзяўчыны, дачкі святара, сярод іншых абавязкова выдзеліш — такі адухаўлёны... А ёсць ужо такія, хто мае ўласную прыбытковую справу. Для іх патрабуемая сума сапраўды не праблема, а праблема — здолець прыгожа даць гэтыя грошы. Ні ўзроставых, ні якіхсьці іншых абмежаванняў у нас няма. Але паступаюць у асноўным адразу пасля школы.

— І ў кожнага ёсць неабходныя 24 тысячы?

— У мінулым годзе гэта былі ўсяго толькі 3. Але інфляцыя... Спыніцца — ніхто не перашкодзіць і нам знізіць плату. Многім дапамагаюць спонсары, яны ж могуць устанавіць сваім студэнтам і стыпендыі — інстытут гэтага зрабіць не ў сілах. Былі і такія, каго фінансавалі, каб потым прыцягнуць да працы, прыватныя банкі. Мяркую, не за гарамі той час, калі і Ашчадны банк, як паўсюль на Захадзе, будзе дапамагаць моладзі, даючы ссуду на адукацыю.

...Звычайны студэнцкі калідор. Шумна. Там, за дзвярамі, ідзе апошні адборачны тур — гутарка.

— Вы паступаеце на факультэт "Эканоміка кінематографа".Кім жадаеце быць?

— Арганізатарам шоу-бізнесу, — амаль разам адказваюць учарашнія школьнікі Ганна Салавей і Віталь Мухін.

(Здаецца, бабулі зараз гучна ўздыхнуць: "У наш час марылі пра прафесію ўрача, настаўніка, на благі канец — акцёра...")

— І якія ў вас шанцы?

— Праўду кажучы, конкурс... Здаецца, два чалавекі на месца, а атэстат у мяне так сабе, — канстатуе Віталь.

— А ў мяне толькі чатыры "чацвёркі", астатнія — "выдатна".

— Грашовае пытанне, канешне, вырашана?

Аня: — Бацькі, здаецца, знайшлі спонсара...

Віталь: — Частку заплацяць бацькі, частку — я сам, — і пасля некаторай паўзы неяк загадкава, — маю справу.

— Як сябры, знаёмыя аднесліся да вашага выбару?

Віталь: — Нармальна. Самі ж і параілі.

Аня: — Сказалі, што я ненармальная: маўляў, такія грошы аддаеш, а чаму там навучаць — яшчэ невядома!

— І ўсё-ткі цікава, што з гэтага атрымаецца?

— Канешне!

... А раптам, як "адзвоняць" належныя чатыры гады, ступені бакалаўра ім падасца мала?

**Галіна СВЕЦІНА.**



Суверэнітэт маленькай нашай рэспублікі нясе ў сабе і радасць, і боль. Мы атрымалі незалежнасць, а поруч з ёй – забруджаную радыяцыяй і нітратамі глебу, хворыя лясы, атручаныя рэкі і азёры, сотні, тысячы хворых людзей ад наступства тэхнакратычнага грамадства. Здаецца, чалавек узяў на мэту ўласнымі рукамі выкапаць сабе магілу ў гэтай шматпакутнай зямлі. Але ніхто, акрамя нас, не стане дбаць пра будучыню нашых дзяцей. Што мы ім рыхтуем? Прагулкі на свежым паветры ў процівагазах? Чыстую ваду па талонах? Яны, маленькія грамадзяне, ужо сёння дачасна хварэюць і гінуць ад бестурботнасці дарослых дзядзькаў. Гэтага нельга дапусціць. І "Неруш" кожным сваім радком і надалей будзе даводзіць вышэйпамянёнае. "Неруш" – супраць саманадзейнай, пыхлівай фразы "Человек – покоритель природы". "Неруш" – засцярожлівае стаўленне да наваколля, за суладдзе чалавечага жыцця і прыроды, бескампрамісную барацьбу з бяздонным вынішчэннем прыроднага багацця. Урэшце краіны, намнога больш чыстыя, чым наша, клапоцяцца пра экалогію. Узяць на прыклад тыя ж Скандынаўскія дзяржавы, Рурскую вобласць у Германіі. Такім чынам, "Неруш" супраць пераўтварэння рэспублікі ў суверэнны сметнік і магільнік. Пра гэта і прачытаеце ў чырваназменаўскай "Нерушы" ў наступным годзе.

## Алена НЯМКЕВІЧ:

# "ПАМІРАЦЬ БУДУ Ў ЯНОЎЦЫ"

Алена Міхайлаўна Нямкевіч з вёскі Яноўка Рэчыцкага раёна, што на Гомельшчыне, амаль цвёрда ўпэўнена, даверыўшыся газетам і радыё, што іх вёска пацярпела ад чарнобыльскай навалы ў меншай ступені, чым некаторыя іншыя мясціны. Бо нездарма, гаворыць яна, побач, амаль праз усю вёску, якая нагадвае адну вялізную артэрыю, паралельна пабудавалі яшчэ адну вуліцу, з цэглы і бетону. "Гэта ўжо для перасяленцаў,— тлумачыць яна,— для тых, хто больш не можа жыць там, бліжэй да АЭС. Таму можа ў нас і чысцей,— гаворыць яна, бо пераехалі ж да нас людзі, трошкі значыцца жывём лепш. Праўда, калі паглядзець на карту, то і ад Яноўкі да Чарнобыля — усяго з сотню кіламетраў." Але пад час нашай гутаркі Алена Міхайлаўна некалькі разоў пацірала сабе скроні, часамі з вялізнага жалезнага кубка рабіла некалькі глыточкаў халоднай вады, якую я дапамог выцягнуць са студні. Яшчэ крыху раней, пачуў з гаворак старэнькіх бабулек на аўтобуснай станцыі каля магазіна, што ў Алены Міхайлаўны нейкая раённая камісія (а іх тут бывае шмат) вызначыла самую брудную, у радыяцыйным плане, студню. Але гэтаму мала хто верыць, бо ўсе суседзі як прыходзілі да яе па ваду, так і прыходзяць.



На тое, што ўжо амаль пастаянна пяршыць у горле, часамі становіцца млосна, зямля выбягае з-пад ног, Алена Міхайлаўна не звяртае ўвагі. Кажа, што прывыкла ўжо да гэтага і здаецца, што такое з ёй адбывалася ўсё жыццё.

Я шмат ужо начуўся пра тое, што вяртаюцца людзі на свае абжытыя месцы, у свае дамы, нягледзячы на вялікую радыяцыю, у якую большасць не верыць, асабліва старэйшае пакаленне. Не злодзей жа яна, і за руку не схопіш. Але паміраюць ад яе найчасцей яны. Шмат хто з пераселеных вёсак найбольш забруджаных мясцін, "нагасцяваўшыся ў чыстых раёнах" Віцебскай, Гродзенскай абласцей, вяртаюцца дадому. Хтосьці вяртаецца з-за непаразуменняў з новымі суседзямі, з новымі ўладамі, якія лічаць, што занадта многа патрабуюць гэтыя "галадранцы". Бо ў большай ступені перасяленцы з забруджаных раёнаў перабіраюцца на новыя месцы жыхарства амаль без нічога, не маючы аніякай ні тое, што хатняй гаспадаркі, але й элементарных рэчаў чалавечага ўжытку. То ім кватэру падавай, а то яшчэ і асобны катэдж, халадзільнікі ім без чаргі, тэлевізары. Самім жа не хапае. І яшчэ. Па меркаванню многіх, тая грашовая кампенсацыя за пакінутыя хатнюю гаспадарку, дом і многае іншае, якое немагчыма ўзяць з сабою з-за небяспекі для жыцця, пры пераездзе ўзбагачае перасяленцаў. Што значаць тыя няшчасныя некалькі дзесяткаў тысяч рублёў пры сённяшніх неверагодных цэнах, якія растуць не па днях, а па гадзінах. І таму можа і вяртаюцца некаторыя людзі разам з сем'ямі назад, на сваё, хоць і забруджанае, хоць і небяспечнае для жыцця, але на сваё. Дзе ніхто не зможа папракнуць ні кавалкам хлеба, ні, які сорам, бытавым пыласосам. Сам зробіш, сам вырасціш, а значыцца сам сабе і гаспадар. А таму ў некаторай ступені можна зразумець такіх людзей, якія вяртаюцца да сябе, у родныя мясціны. Разумее такіх людзей І Алена Міхайлаўна.

— З нашай вёскі перабіраліся ў асноўным маладыя ды начальства. Моладзь больш рухавая, пераезды для іх справа няцяжкая, а з начальства як з гусі вада. А трэсціся нам, старым, за сотні кіламетраў, паверце, не так ужо і лёгка. Адпраўляла я сваю малодшую дачку, Святлану. З'ездзі, кажу, дачка, паглядзі, як людзі жывуць. Калі спадабаецца, то пераязджай. Для дзетак усё ж такі здаравей будзе. Паехала мая Святлана назад ў вёску Жыцькава, што на Барысаўшчыне пад Мінскам. Пабыла, паглядзела. Мама, кажа яна, там усё добра, людзі прыветлівыя і месца само па сабе неблагое. Кватэру, што мне прапанавалі, калі я вырашу перабрацца, трошкі падрамантаваць і жыць было б добра. Але не магу я так. Я ж нарадзілася ў Яноўцы, тут вырасла, замуж пайшла, дзяцей сваіх нарадзіла. Тым больш, кажа яна, і ты тут жывеш. А як жа я цябе тут пакіну?

Алена Міхайлаўна пацiху выцірае хустачкай вочы.

— Куды ж я, старая, паеду? Хаця і засталася я адна. Дзеда свайго пахавала ў 1987 годзе. Хадзіў мой стары на працу, бадзёрыўся, крыху выпіваў, але трываў. За семдзесят яму ўжо было. На другім годзе пасля таго выбуху на Чарнобылі неяк раптоўна ён зачэз, адным словам, згарэў, толькі што і паспелі прывезці ў Рэчыцу, у бальніцу — памёр. Тады ж урачы нічога не гаварылі, можа і ад таго, што і не маглі нічога гаварыць, а можа таму, што і самі нічога пра гэта не ведалі. Адзінае, што сказалі мне тады, што памёр мой дзед ад старасці. Але цяпер жа я ведаю, што гэта не так. І паперку адпаведную маю, нядаўна толькі і далі мне яе, заключэнне значыцца. І напісана ў ёй дзеда майго хвароба, ад якой ён і памёр, — лейкоз. Казалі мне пасля, што магчыма было яго яшчэ выратаваць, але не было ў бальніцы столькі крыві, каб зрабіць цалкам яе пераліванне. Куды ж я, унучак, на старасці гадоў паеду? Тут жа і дзед мой пахаваны ды і я ўжо, як кажуць, збіраюся...

Кот Мурзік ды сабака Малыш — вось і ўся яе гаспадарка. Раней трымала курэй, гадавала парсючка. Але цяпер стала не па сілах. Рукі баляць, ногі, але болей за ўсё галава. Колькі таблетак і ўколаў зведала ўжо, адзін бог ведае, але памагае толькі на кароткі час. І з'язджаць нікуды не хоча. Можна было б перабрацца да дачкі ў Мінск ці да сына ў Расію — не хоча. Сама заязджае на які месяц-другі да іх, як кажа, у госці, але зноў жа вяртаецца дадому, у сваю Яноўку.

Ад'язджаючы, я, каб не пакрыўдзіць Алену Міхайлаўну, узяў пару слоікаў чырвоных парэчак, чарніц. Больш нічога іншага мне Алена Міхайлаўна прапаноўваць не стала. Бо ведала ўжо па сваіх родных, што баяцца гарадскія зашмат набіраць з гэтых раёнаў. Але ж адмовіць ёй я не змог...

**Віталь ДАЛІДОВІЧ.**

# НАША ДОЛЯ МУТАНТНАЯ

Калі ў звычайных умовах ад аднаго дрэва вырастае 2-3 маладыя, якія абралі перамогу ў жорсткай канкурэнтнай барацьбе за месца пад сонцам, то зараз чалавечыя лень і безгаспадарчасць пазбавілі іх натуральнага адбору. Каго цікавіць, што праз нейкія 30 год гэты лес пачынае хварэць і сохнуць, гніць на корані? Пакуль тое настане, шмат вады сплыве. Галоўнае — план.

Няцяжка прыгадаць: лясы ў Беларусі "рукатворныя" і пасаджаныя з нялепшага насення. Тады ўсё трэба было хутчэй, хутчэй... Людзям неабходны дах над галавой... Хутчэй, хутчэй...

А тут раптам радыяцыя, зона... Міжволі прыходзіць у галаву фантастыка братоў Стругацкіх. Але ні Перэцам, ні Сталкерам я сябе не адчуў, калі сустрэўся з загадчыкам сектара малекулярнай генетыкі Інстытута лесу (Гомель) сп.Р.Р.Ганчарэнкам.

Рыгор Рыгоравіч вельмі хутка ўсё расклаў па палічках і мне нават перадалося яго захапленне малекулярнай генетыкай. Аднак больш за ўсё мне прыйшлася даспадобы не ягоная лаканічная і надзіва лёгкая для разумення экспрэс-лекцыя пра прадмет генетыкі разам з сумным экскурсам у гісторыю гэтай навукі ў нашай краіне цудаў, а клопат сапраўднага навукоўца за зямлю, людзей, якія на ёй жывуць. З аднаго боку чарнобыльская навала дае магчымасць прасачыць за мутацыямі, што цікава з навуковага пункту гледжання, але як сапраўдны сумленны чалавек ён спрабуе дапамагчы іншым людзям і, самае галоўнае, дапамагчы канкрэтнай справай, а не словам...




У выпадку разбурэння генетычнага матэрыялу клетак з'яўляюцца "памылкі" і ў арганізме пачынаюць няспынна фарміравацца мутантныя клеткі і тканкі, якія не проста робяцца чужымі арганізму, але й змагаюцца з ім, як злаякасныя пухліны. Калі ж радыяцыя ўздзейнічае на яйцаклеткі жанчыны і сперматазоіды мужчыны, ёсць падставы чакаць нараджэння дзяцей з тымі ці іншымі анамаліямі. У выніку — таксама мутанты...

Калі мутацыя ўжо адбылася, дапамагчы чалавеку бывае вельмі складана, а часцей за ўсё і немагчыма. Адсюль вынёсак — неабходна шукаць змены яшчэ ў генетычным матэрыяле, каб паспець да іх падрыхтавацца. Менавіта гэта адна з прыярытэтных тэм лабараторыі малекулярнай генетыкі.

Вельмі складана аналізаваць генетычны матэрыял чалавека ў цяперашніх постсацыялістычных абставінах, калі навуковец не толькі не мае неабходнага абсталявання (яно робіцца сваімі рукамі ці просіцца "для параўнання" з-за мяжы), а нават не атрымоўвае па некалькі месяцаў зарплату. Дзе ўжо тут гаварыць аб выплатах кампенсацый донарам...

Але супрацоўнікі лабараторыі звярнулі ўвагу на аналаг яйцаклеткі — эндасперм насення хваёвых раслін. Была распрацавана аптымальная тэст-сістэма і праведзены шырокамаштабны аналіз генетычнага матэрыялу на забруджанай тэрыторыі і, для параўнання даных, — на чыстай. Калі на 100 тысячах "чыстых" тэст-аб'ектах была знойдзена 1 мутацыя, то ўсяго на 40 тысячах "брудных" (Барталамееўка) — 3.Даследаванне працягваецца, але ўжо цяпер можна зрабіць выснову, што нятрэба панічна баяцца радыяцыі, але нельга й недаацэньваць фактар яе разбуральнага ўздзеяння на чалавека. Кожнаму павінна быць прадастаўлена інфармацыя аб магчымай бяспецы для яго здароўя і кожны сам павінен цвяроза вырашыць: ці ёсць сэнс працягваць жыць на забруджанай тэрыторыі. Усе даныя аб маштабах і магчымых выніках чарнобыльскай катастрофы павінны быць перададзены абсалютовай галоснасці. З насельніцтвам забруджаных раёнаў трэба праводзіць медыка-асветніцкую працу. Ва ўсялякім разе справу нельга пускаць на самацёк.

У канцы сакавіка на базе Інстытута лесу адбыўся міжнародны семінар экспертаў па вызначэнню вынікаў чарнобыльскай катастрофы ў лясных цэнозах Рэспублікі Беларусь. Былі прадстаўнікі Нарвегіі, Польшчы, зацікаўленых краін СНД. Рыгор Рыгоравіч прыгадаў разам з агульнай працай навуковай нарады некалькі дзіўных меркаванняў, якія наводзяць на сумныя вывады. У прыватнасці зацікавіла заява прадстаўніка Расеі ад МАГАТЭ сп.Вятрова, які спрабаваў пераканаць прысутных, што жыць на тэрыторыі Беларусі, за выключэннем двух кіламетраў ад 4-га блока ЧАЭС, можна і трэба, праўда, сам чамусьці адмовіўся... Як бачна, сяброў пазнаюць у бядзе.

Даныя гомельскіх навукоўцаў адпавядаюць міжнароднаму вопыту, атрыманаму за апошнія 30 год, і не супадаюць з гэтымі аптымістычнымі заявамі. Аднак для больш дакладных вывадаў неабходна атрымаць больш грунтоўны матэрыял з розных забруджаных тэрыторый. З гэтай прычыны ў Інстытуце лесу пры лабараторыі малекулярнай генетыкі ўтвараецца міжнародны цэнтр генетычнага прагнозу.

А сакавіцкі семінар, у сваю чаргу, прызнаў доследы, якія праводзяцца ў Гомельскай вобласці унікальнымі і карыснымі для ўсяго свету. Таму беларускую тэст-сістэму збіраюцца апрабіраваць у Нямеччыне, дзе на мяжы з Францыяй ёсць таксама праблемы з радыеактыўным забруджаннем ад "мірнага атама".

У свой час "Гомельская праўда" змясціла грунтоўны матэрыял аб Інстытуце лесу, дзе тлумачылася унікальнасць лабараторыі сп.Ганчарэнкі, бо гэта адзіны калектыў генетыкаў, які жыве і працуе на забруджанай радыенуклідамі тэрыторыі. Але справа ўсё роўна не зрушылася з мёртвай кропкі, асаблівай падтрымкі калектыў навукоўцаў усё роўна не атрымаў. Пад час майго прыезду яны ўвогуле працавалі "за так", бо ўжо колькі месяцаў у інстытуцкай касе грошы не з'яўляюцца, ды і зарплатай іх можна назваць толькі ўмоўна — студэнт атрымлівае амаль столькі ж, хіба толькі больш рэгулярна... Вучыся студэнт: хто не працуе, той есць!..

Не сакрэт, што ва ўсім цывілізаваным свеце спецыялісты карыстаюцца попытам. Вось і супрацоўнікі лабараторыі малекулярнай генетыкі Інстытута лесу Акадэміі навук Беларусі маюць запрашэнні ў вядомыя "буржуінскія" інстытуты, дзе не паўстае пытанне з аплатай працы, чэргамі на кватэру, з абсталяваннем... Невядома, на колькі хопіць голага энтузіязму і патрыятычных пачуццяў?

**Паўлюк БЫКОЎСКІ.**
**Менск—Гомель—Менск.**



Вядучы экалагічнай старонкі "НЕРУШ" Віталь ДАЛІДОВІЧ, Тэл. 32-24-96

## АПЯРЭДЗІМ ЧАС!

Мы не імкнёмся да іміджу прадказальнікаў, медзіўмаў і астролагаў. Прадбачыць падзеі, тым больш у такі імклівы час – занятак няўдзячны... Ёмістае слова ёсць у нашым лексіконе – "тэндэнцыя". Тэндэнцыя да раз'яднання, тэндэнцыя да росту злачыннасці, тэндэнцыя да... дэградацыі. І задача наша – высвятляць такія тэндэнцыі і змагацца з імі. Тым больш, што "ЧЗ" – газета маладзёжная, зубастая, але й памяркоўная. Ва ўсялякім выпадку такой нам хацелася б яе бачыць.

Старонку "Моладзь і час" рыхтуе аддзел пісьмаў і сацыяльных праблем "ЧЗ". Сама назва аддзела прэтэндуе на універсальнасць, бо паняцце "сацыяльныя праблемы" досыць шырокае.

Што ж мы плануем на наступны год? Адзінае: паспяваць за часам. Знаёміць чытача з тым, што самі здолеем раскапаць. Канкрэтна? Распавядзём пра ўсе больш-менш значныя маладзёжныя аб'яднанні – як старыя, так і пра тыя, што толькі народзяцца. Пазнаёмім вас, шаноўныя чытачы, з людзьмі, чый лёс можа служыць прыкладам – як станоўчым, так і адмоўным. Мусім працягваць рубрыку "Ліставанне" – так што вашы лісты да нас без адказу не застануцца.

"Ёсць пытанне?" – таксама звяртайцеся да нас! Зпад зямлі адказ дастанем, але "гонар маркі" падтрымаем. Не згінуць таксама і рубрыкі "Лесвіца ў неба" – далёка не ўсе праблемы рэлігіі намі асветлены на старонках "ЧЗ", "Аты-баты" – якраз цяпер вельмі востра стаіць праблема стварэння беларускага войска.

Але ж асноўная наша ўвага – пошуку магчымасцей для паляпшэння жыцця, тых рычагоў, націснуўшы на якія чалавек здолее разбурыць сцяну бязглуздзіцы, абыякавасці, бяздухоўнасці. Калі ж пасля таго, як прачытае нашы матэрыялы, жыхар Беларусі адчуе сябе не закінутым у вір безнадзейнай рэчаіснасці, а пачне шукаць, думаць – недарма гэтае ўсё, недарма!



Падрыхтаваў старонку Алесь ПАЛЫНСКІ, рэдактар аддзела пісьмаў і сацыяльных праблем. Тэл. 32-13-04.

**Доўга, вельмі доўга моладзь былога СССР атаясамлівалася з камсамолам... Разлом у часе, разлом у свядомасці, што адбыўся ў апошнія гады, прымушае пэўнага маладога чалавека здзіўлена перапытваць: "Камсамол? Хіба ён яшчэ існуе?"**

# ПРАВА НА ВЫЖЫВАННЕ: "А дзе ж будзе мой кабінет?"

Аказваецца, так. І я не маю на ўвазе тых хлопцаў і дзяўчат, што пад час напаўлегальнага з'езда зноў утварылі ЛКСМБ. Утварылі, бо большая частка былых камсамольцаў з усмешкай у вачах і без вялікага жалю развіталася з дзвюма першымі літарамі абрэвіятуры сваёй арганізацыі, абрэвіятуры, якая зазначала галоўнага манапаліста на выхаванне моладзі... Часы і назва змяніліся. Але ці змянілася сутнасць арганізацыі, якая фігурыруе цяпер пад адначасова гучнай і нейтральнай шыльдай — СМБ — Саюз моладзі Беларусі?

Гутарка зноў пойдзе пра манаполію. Манапалію ўжо не на ідэалогію, не на выхаванне, а на маёмасць былога Ленінскага Камуністычнага. Не адкрываючы Амерыкі, нагадаю, што ўсё, чым зараз валодае СМБ, створана на грошы былых камсамольцаў. Так, на тыя "дзве капейкі", што мільёны школьнікаў, "пэтэвушнікаў" і студэнтаў з чатырнаццацігадовага ўзросту ўносілі ў камсамольскія касы. Здаецца, дробязь? Сапраўды, толькі здаецца. Бо з капеек збіраюцца мільёны, ды й працуючыя камсамольцы неслі сваім сакратарам ужо не капейкі — рублі.

Нават калі цалкам адкінуць гіпотэзу аб тым, што з дзяржаўнай касы ў камсамольскі кішэнь пераліваліся нейкія сродкі, можна сцвярджаць, што камсамол быў арганізацыяй далёка не беднай. Але ці станавіліся ад гэтага багацейшымі камсамольцы?

У Мінску на вуліцы К.Маркса, 40 звяртаў на сябе ўвагу прыгожы чатырохпавярховы будынак — штаб беларускай камсамоліі. Пасля фарса, які атрымаў назву "путч", былі зроблены захады адабраць у тады яшчэ ЛКСМБ ягоны офіс. Нагадаю, што "Нюрнберг мясцовага значэння" апраўдаў камсамол і пячаткі з кабінетаў ягоных сакратароў былі знятыя. І гэта было справядліва, бо ўдзел у путчы беларускіх камсамольцаў быў прама скажам, праблематычным.

Нельга закончыць прадмову, не ўзгадаўшы наступнае: у часы перабудовы камсамол стаў заснавальнікам шматлікіх камерцыйных структур. У кабінетах, дзе раней засядалі амаль выключна ў пінжаках і пры гальштуках, сталі "тусавацца" хлопцы ў "варонках", скураных куртках і падобных да гэтага атрыбутах пачынаючых камерсантаў, якія паставілі сваім дэвізам "нічога саўковага!". Хутчэй за ўсё, камсамол і ў гэтым сэнсе стаў перадавым атрадам партыі, палігонам, дзе правяраліся магчымасці пераходу грамадскай арганізацыі на камерцыйныя рэйкі з тым, каб функцыянеры змаглі забяспечыць сваю будучыню. Так і адбылося: многія былыя партыйныя і камсамольскія работнікі зараз пераўтварыліся ў "преуспевающих" бізнесменаў.

Ідэя была грунтоўнай: кемлівыя апаратчыкі прадбачылі, што асноўная частка моладзі паступова перастане карміць структуры, якія не прыносяць ёй ніякай карысці. Вакуум павінен быў запоўніцца даходамі ад камерцыі, прычым пэўныя льготы пры падаткаабкладанні рабілі гэтую справу досыць выгаднай. Былі, праўда, і накладкі: некаторыя фірмы, паднакапіўшы грошай, хуценька кідалі свайго заснавальніка і станавіліся самастойнымі...

Жнівень 91-га года добра папсаваў нервы бізнесменам ад камсамола. Небяспека ішла з двух бакоў: пераможа путч — прыкрыюць камерцыю, пераможа дэмакратыя — прыкрыюць (магчыма) камсамол, адбяруць пакоі ягоных камітэтаў, дзе звілі сабе ўтульныя гняздзечкі бізнесмены. Але ў выніку апошнія змаглі ўздыхнуць з палёгкай: усе засталіся пры сваіх інтарэсах.

Гісторыя — гісторыяй, але справядлівасць — справядлівасцю. Ці варта спадзявацца на гісторыю, якая, маўляў, паставіць кропкі над "і" і гэтую справядлівасць адновіць? На жаль, справядлівасці абсалютнай (тым больш у перыяд пачатковага накаплення капіталу) быць не можа. Але чаму ж маёмасцю, нажытай усімі, распараджаецца нязначная па сваёй колькасці група індывідуумаў? І калі ўжо гутарка ідзе пра нашчадкаў камсамольскай маёмасці, адыдзем ад узроўню павярхоўнай дыскусіі і звернем увагу чытачоў (а яны таксама ў абсалютнай большасці былыя камсамольцы) на факты, якія сведчаць: далёка не заўсёды спадчына справядліва размяркоўваецца паміж нашчадкамі.

"Кожны выкручваецца як можа". Цяпер менавіта такой устаноўкай кіруюцца гаспадары будынка ЦК СМБ, адкуль ва ўсе часы разыходзіліся заклікі да калектывізму. Так, права на выжыванне мае кожны. Але ўзурпацыя гэтага права нямногімі дае ў сваю чаргу астатнім права на пошук справядлівасці.

Не магу сказаць, што СМБ быў бесперспектыўнай арганізацыяй. Мне даводзілася бываць на апошніх з'ездах, пленумах, дзе з трыбун ракою ліліся планы работы, якая магла сапраўды прынесці пэўную карысць. Што ж атрымалася? ЦК СМБ, якому дадзена права распараджацца сродкамі, не толькі не выкарыстаў гэтае права на карысць моладзі, але і давёў арганізацыю амаль што да банкруцтва.

...Фірма "Белая Русь" была ўтворана ў часы, калі выдавецтва "Беларускі Дом друку" адмовілася ад заведама стратных дзіцячых і маладзёжных выданняў. Заснавальнікам фірмы выступіў ЦК (тады яшчэ) ЛКСМБ, а мэтай яна мела выданне маладзёжных газет і часопісаў. Усё, здаецца, лагічна... Але — зноў гэтае "але" — далёка не спрыяльнай для фірмы аказалася сітуацыя. Заснавальнік практычна скінуў на плечы фірмы, якая яшчэ не паспела як след устаць на ногі, усе клопаты, але дапамогу аказаў... прама скажам, не адпаведную пастаўленай задачы. Дзякуй Богу, дзяржаўныя структуры не пакінулі на волю лёсу "Бярозку", "Зорьку", "Піянер Беларусі", "Чырвоную змену". Толькі датацыі не дазволілі гэтым выданням спыніць сваё існаванне і тым самым дашчэнту сцерці яшчэ адну грань беларускай культуры.




Што ж, цяжка патрабаваць ад жабрака міласціны. Узносы членаў СМБ, якія на працягу апошніх гадоў з бурлівай ракі пераўтварыліся ў перасохлы ручаёк, не забяспечваюць нават патрэбаў самой арганізацыі. І ўсё ж такі не дапамагаеце — ды хоць не перашкаджайце!.Справа ў тым, што ў перыяд стварэння фірмы "Белая Русь" у будынку ЦК ёй былі выдзелены тры пакоі — пад вытворчы аддзел, бухгалтэрыю і касу. Зразумела, што рэдакцыі, якім таксама катастрафічна не хапае памяшканняў, проста не ў стане былі выдзеліць плошчу для патрэбаў фірмы. І вось цяпер і свае кабінеты ЦК СМБ хоча ў фірмы канфіскаваць...

Няўжо ж СМБ разгарнула такую бурную дзейнасць на карысць моладзі, што няма яму куды саджаць сваіх апаратчыкаў? Але ж, здаецца, наадварот — значнае скарачэнне структуры мусіла дазволіць вызваліць большую частку з трох тузінаў цэкоўскіх кабінетаў. Хто ж яны цяпер, насельнікі былой камсамольскай цытадэлі?

Па-першае, гэта самі супрацоўнікі ЦК СМБ — сакратары, загадчыкі аддзелаў, інструктары. Праўда, каго яны зараз інструктуюць — сакрэт. Займае такі "значна скарочаны" апарат два верхнія паверхі.

Па-другое, гэта тыя камерцыйныя структуры, якія па задумцы іх заснавальнікаў павінны зарабляць грошы для дзейнасці СМБ (чытай, ЦК СМБ).

...Некаторыя скажуць: "Вось, маўляў, лезе не ў свае справы." Не згодны. І мае сродкі, укладзены сюды, і я, як усе іншыя, маю права на цагліну са сцяны ЦК СМБ. Толькі ні аўтар гэтых радкоў, ні абсалютная большасць астатніх камсамольцаў сваё права так і не скарыстала... Можа, не варта тут карыстацца катэгорыямі маралі, сумлення, але што бліжэй да моладзі — маладзёжная прэса або гільдыя брокераў, якая таксама займае памяшканне ў ЦК і плаціць, відаць, неблагія грошы за арэнду? Ці СМБ наогул адмовіўся ад духоўнага ўплыву на сваіх апакрыфічных членаў, аддаўшы перавагу толькі матэрыяльнаму? Не думаю, што размешчаныя ў будынку ЦК камерцыйныя прадпрыемствы "Інком" або "Тэтрапак" зробяць для будучыні беларускай моладзі больш, чым выданні, мэтай сваёй абраўшыя спрыянне развіццю духоўнасці, нацыянальнай свядомасці новага пакалення.

Вядома, бізнес таксама працуе на будучыню. Ні ў якім разе я не маю намеру пакрыўдзіць тых, хто працуе ў структурах бізнесу. Яны тут у прынцыпе ні пры чым. Бізнес робіць сваю справу, і можа стацца, што менавіта ў будынку, пра які ідзе гаворка, з'явяцца новыя мецэнаты накшталт братоў Трэцьяковых або Савы Марозава.

Здаецца, дробнае пытанне — некалькі кабінетаў у нейкім будынку. І ўсё ж такі менавіта ў гэтым канфлікце як у люстэрку бачны адметнасці эпохі, часу, калі існаванне культуры, маралі ў пэўным сэнсе залежыць ад няшчасных квадратных метраў і волявыяўлення пэўных недальнабачных асобаў...

Кіраўніцтва СМБ не набярэ балаў, калі будзе адбіраць кабінеты ў адных і перадаваць другім. На адной з нарад з удзелам рэдактараў маладзёжных выданняў прагучала прапанова стварыць у будынку ЦК СМБ Дом маладзёжнага друку. Першы сакратар ЦК А.Фядута запалохана спытаў тады: "А дзе ж будзе мой кабінет?" Ай, як баяцца страціць свае кабінеты "апошнія з магікан" некалі магутнага камсамольскага племені! Тым больш, што кабінеты гэтыя сталі цяпер не столькі сродкам улады, як сродкам выкалачвання грошай.

Моладзь і час... Нездарма такую рубрыку мы ставім над гэтым матэрыялам. Хто фарміруе змест часу? Хто ўплывае на працэсы, якія адбываюцца ў грамадстве? Хто і што ўладарыць над перакананнямі людзей? Не хацелася б думаць, што ў душы сучаснай моладзі з лёгкай рукі ейных "видных представителей" прыбытак матэрыяльны стане адназначным пераможцам набыткаў духоўных. Права выжываць маюць усе. Але якімі мы станем?

Алесь ПАЛЫНСКІ.

Падпіска-93. Наш індэкс 63129.

## Школа-93

Некалі ў падрастаючага пакалення карыстаўся папулярнасцю такі вершык:

*Не хадзіце, дзеці, у школу,*
*Гэта школа не для вас.*
*Тут настаўнікі — шпіёны,*
*А дырэктар — Фантамас.*

Праблема ўзаемаадносін дзяцей і педагогаў існавала заўсёды і вырашалася ў розныя часы па-рознаму. (Успомніце хаця б славутыя бізуны і лінейкі. Не ўрачыстыя, а тыя, якімі білі па пальцах непаслухмяных). Як бы там ні было, навучальная ўстанова заўжды з'яўлялася цэнтрам ведаў, культуры і духоўнага ўдасканалення асобы.

Агульнавядома, што адукацыя на Беларусі ў свой час пацярпела ад жорсткай цэнтралізацыі кіравання, што і прывяло яе да плачэўнага стану... "Чырвоная змена" прытрымліваецца думкі, што дзяржаўнае і нацыянальна-культурнае адраджэнне рэспублікі магчыма ў першую чаргу праз адукацыю.

Дарэчы, значнае месца ў нацыянальна-культурным адраджэнні адводзіцца сёння сельскай школе. Менавіта яна самым цесным чынам звязана з каранямі, з культурай беларускага народа. Але як зразумець, што ў 60 працэнтаў сельскіх школ на сённяшні дзень няма цэнтральнага ацяплення? Водаправода? Каналізацыі? Толькі некаторыя маюць памяшканні для заняткаў фізічнай культурай? "Чырвоная змена" ніколі не стаяла ў баку ад праблем вёскі і сельскай школы ў прыватнасці. У наступным годзе матэрыялы на гэту тэму шукайце пад рубрыкай "Правінцыяльная школа".

Шчыра кажучы, хацелася б многага, але магчымасці газеты ў сучасных умовах не бязмежныя. І ўсё ж пастараемся, наколькі гэта будзе ў нашых сілах, садзейнічаць сацыяльнай абароне сірот, інвалідаў, дзяцей з малазабяспечаных сем'яў, падтрымліваць найбольш таленавітых і здольных з іх.

І яшчэ. Паколькі асноўнымі "аб'ектамі" ўсіх сацыяльных пераўтварэнняў, школьных рэформ, "альтэрнатыўных" форм навучання з'яўляецеся вы, нашы юныя чытачы, менавіта вам, вашым праблемам, вашым неардынарным меркаванням, цікавым заўвагам і прапановам будуць прысвечаны старонкі "Званок на ўрок" і "Галёрка".

Калі вас хвалюе нейкае пытанне, а з бацькамі адносіны напружаныя – звяртайцеся да нас. Пастараемся разам вырашыць усе праблемы. Згодны?



Старонку падрыхтавала Жанна ПАЦЕЕНАК.
Тэл. 32-50-01

# «Нам рэклама не патрэбна»,–

## заявіў дырэктар ліцэя пры творча-вытворчай фірме "МОКА".

І меў рацыю. Навучальная ўстанова існуе другі год, а сёлета конкурс у першы клас быў 10—12 дзяцей на месца. Стаць вучнем прыватнай школы можа кожны, хто набярэ большую колькасць балаў па выніках тэстаў і чые бацькі маюць магчымасць за навучанне плаціць (безумоўна, у разумных межах). Але ж галоўнае — здольнасці дзіцяці. Калі малое ўмее чытаць, лічыць да дзесяці, не блытае левую руку з правай, то хутчэй за ўсё ў дзесятку шчаслівчыкаў яно трапіць (у класах па 10—15 вучняў).

І будзе займацца потым 5 дзён у тыдзень. Дзеці праводзяць большую частку дня ў ліцэі — з дзевяці гадзін раніцы і да семнаццаці. Праграма ліцэя — гэта базавая праграма агульнаадукацыйнай школы. Да таго ж з першага класа пачынаецца вывучэнне англійскай мовы, а на трэцім годзе — другой замежнай мовы (нямецкай ці французскай — па жаданню бацькоў).

Пакуль што ў школе пяць класаў. З кастрычніка бягучага года пяцікласнікі будуць спасцігаць азы камп'ютэрнай граматы (менавіта да гэтага часу будзе падрыхтаваны клас), а пазней плануецца пераход на праграму "пілотнай" школы (з выкарыстаннем камп'ютэрнай адукацыі).

Вывучэнне беларускай мовы адбываецца па праграме рускамоўнай школы.

Звычайныя тут заняткі музыкай, харэаграфіяй, гімнастыкай, плаваннем.



Пятніца заўсёды прысвячаецца наведванню выхаванцамі музеяў, выстаў, тэатраў.

Педагагічны калектыў ліцэя малады. Дарэчы, настаўнікам таксама прыйшлося пахваляваца: і яны праходзілі конкурс. Кожны з іх прадстаўляў сваю канцэпцыю навучання і меў гутарку з дырэктарам.

Перш чым адкрыць прыватную школу, давялося пераадолець шмат цяжкасцей. Дзякуючы дапамозе намесніка міністра адукацыі Казуліна А.В. і намесніка старшыні Маскоўскага выканкама горада Мінска Лукашчыка У.С., першае верасня мінулага года стаў днём нараджэння ліцэя.

Але галоўная праблема ўсё ж пакуль засталася. Яна хвалюе дырэктароў усіх прыватных устаноў. На сённяшні дзень камерцыйныя школы не маюць права выдаваць сертыфікат, які б меў такую ж сілу, як і сертыфікат дзяржаўнай школы. Але пытанне павінна вырашыцца ў хуткім часе, і дырэктарам застаецца толькі набрацца цярпення.

І вучыць дзяцей. А вучыцца ў ліцэі малым падабаецца, бо праграма аднаго дня дынамічная, урокі працягваюцца па сорак хвілін, ёсць вялікі перапынак, пасля якога дзеці займаюцца фізкультурай, так што стаміцца яны не паспяваюць.

П.КРЫЛОВА.

*** Хочаце стаць вундэркіндамі? Вучыцеся ў ліцэі.**
*** Быць ці не быць "ваенцы"?**

# ВАЕНРУК ВУЧЫЦЬ СПАВІВАЦЬ

Яшчэ і дагэтуль успамінаюцца мне заняткі па пачатковай ваеннай падрыхтоўцы ў старэйшых класах. Як хадзілі, чаканячы крок, роўнымі шарэнгамі з манументальнымі тварамі, як разбіралі і збіралі за некалькі хвілін аўтамат Калашнікава, як атрымлівалі адзнакі за хуткасць надзявання процівагаза.

Два гады назад праграма навучання па курсу цяпер ужо дапрызыўной падрыхтоўкі змянілася. Сёння дзяўчаты разам з юнакамі вывучаюць прадмет "Грамадзянская абарона" і асобна праходзяць медыка-санітарную падрыхтоўку. Хлопцаў жа па-ранейшаму вучаць хадзіць строем, страляць.

Але, як неаднаразова падкрэсліваў у размове інспектар па дапрызыўнай падрыхтоўцы ўпраўлення народнай адукацыі Мінскага гарвыканкама В.Б. Варламаў, мэта дзейнічаючай праграмы — не ваенізацыя юнакоў, а падрыхтоўка іх да будучай службы псіхалагічна і фізічна. Рабіць з юнакоў мужчын, выхоўваць у іх пачуццё калектывізму, патрыятызму, воінскага абавязку. Менавіта такія паняцці разглядаюцца ў раздзеле "этыка воінскай службы" праграмы, распрацаванай два гады таму. Праўда, сёння ўсё даволі хутка старэе, і гэты раздзел ужо патрабуе карэкцыі. Як неабходна і карэкцыя падручніка. Школьнікі вывучаюць тэорыю дапрызыўнай падрыхтоўкі па старых падручніках ПВП, дзе зняты здымкі былых кіраўнікоў кампартыі, а тэкст пакінуты амаль тым самым.

Лёс дысцыпліны "дапрызыўная падрыхтоўка" сёння невядомы. Ніхто пакуль што не можа вызначыць, патрэбна яна школьнікам ці не. Усё залежыць ад рашэння Вярхоўнага Савета аб воінскім абавязку. Калі служба ў войску будзе ажыццяўляцца ў нашай краіне па кантрактнай сістэме, то пічкаць усіх вучняў прамудрасцямі ваеннай навукі няма патрэбы. Ну а калі будзе закон аб абавязковай службе, ці не лагічна даць юнакам яе азы?

Пакуль жа частка дырэктараў школ усталёўвае ў кабінетах дапрызыўнай падрыхтоўкі камп'ютэры, бо іншых класаў няма, ператварае ціры ў складскія памяшканні. Многія патрабуюць гэты прадмет выключыць з праграмы сярэдняй школы, другія лічаць, што ён патрэбен. Гэтай жа думкі прытрымліваецца і Беларускае згуртаванне вайскоўцаў.

Пакуль жа ламаюцца коп'і аб пытанні быць ці не быць дапрызыўнай падрыхтоўцы ў школе, зразумела адно: заняткі па грамадзянскай абароне патрэбны ўсім. Напрыклад, у Мінску сёння шаснаццаць прадпрыемстваў, якія ўяўляюць сабой рэальную пагрозу. А часцей за ўсё ў школах начальнік штаба грамадзянскай абароны — жанчына, якая другі раз і не ведае, што трэба рабіць у выпадку, напрыклад, радыеактыўнага забруджвання. Неабходны падрыхтаваны спецыяліст, і лепш за ўсё, каб гэта быў ваенрук.

Дарэчы, аб ваенруках. У Палажэнні запісана, што імі павінны з'яўляцца афіцэры запаса. А хто ідзе ў запас? Людзі, якія ўжо адслужылі сваё. А кожны дырэктар хацеў бы мець маладога, энергічнага, талковага ваенрука. Але ж ніводны малады, здаровы афіцэр не пойдзе ўладкоўвацца ў школу на дзве тысячы. Таму і атрымліваецца, што выкладаюць ваенную навуку нярэдка афіцэры з сівізной.

Праўда, у Брэсцкім і Магілёўскім педінстытутах рыхтуюць ваенрукоў. Пасля пяці год навучання маладому спецыялісту прысвойваецца званне лейтэнанта запаса. Але колькасць выпускнікоў невялікая, забяспечыць кадрамі ўсе школы няма магчымасці.

Вячаслаў Барысавіч Варламаў адзначыў, што раней былі празмернымі патрабаванні да ваеннай падрыхтоўкі школьнікаў. Сёння іх няма. Сёння амаль што нічога няма. Дарэчы, загінула і нядрэнная ідэя абаронча-спартыўных лагераў. А многім юнакам падабалася гульня ў ваеннае жыццё, яны мужнелі, сталелі.

Невядома, у чыю карысць вырашыцца пытанне ваеннай падрыхтоўкі, але, можа і патрэбны гэты прадмет з аднаго боку. Назва яго змянілася, пажадана, каб змяніўся і змест, бо калі іншымі становяцца шыльды, справы ад гэтага не паляпшаюцца. Цяпер націск робіцца на фізічнае і псіхалагічнае выхаванне школьнікаў. Толькі б было яно ў разумных межах. А то, калі галоўная мэта дапрызыўной падрыхтоўкі — выхоўваць мужчын, можа юнакам пачнуць выкладаць асновы рыцарства і высакароднасці. Ну, а дзяўчатам даваць навыкі разумнага размеркавання сямейнага бюджэту і вучыць спавіваць немаўля. Праўда, гэта ўжо будзе не дапрызыўная падрыхтоўка, але мужчыны і жанчыны пачнуць з'яўляцца як грыбы пасля дажджу.

Жанна ПАЦЕЕНАК.



**У** той час, калі REM апранае, нашу родную мову распранаюць бессаромна непрыкрытае манкуртства, нацыянальнае невуцтва, у кароткай псеўдаінтэрнацыянальнай спадніцы, ваяўнічая прастытуцыя чыноўнікаў ад культуры ды навукі, для каго беларусізацыя – толькі моднае слова ды сродак пагрэць рукі. Гэта і іншыя тэмы застануцца на старонках "Роднага слова" і налета, будуць датуль, пакуль не знікнуць самі з'явы. Ці дачакаемся?

А яшчэ ў выпусках "Роднага слова" вы прачытаеце "Аб багох крывіцкіх сказы", штомесячныя літаратурны ды народны календары, беларускія казкі ды гумар. У куточку "Немаўля" дзеці знойдуць карацелькі, лічылкі, смяшынкі. Мяркуем таксама прадоўжыць публікацыю артыкулаў пад рубрыкай "З гісторыі мовы". Чакаем вашых лістоў і допісаў. Каб не пуставала скрынка "зваротнага адраса".

Пакуль REM апранае – многа праблем з роднай мовай. Прашу – тэрмінова выпісвайце "Чырвоную змену" і чытайце "Роднае слова".



**Вядучы выпуску "Роднага слова" Уладзя МІХНО, тэл. 32-50-01.**

*Фельетон*

# СПОВЕДЗЬ ДАЖДЖАВОГА ЧАРВЯКА



Думаеце, не чытаю прэсы? Яшчэ як чытаю. Людзі — стварэнні дзіўныя: карыстаюць газеты на розныя тэхнічныя патрэбы, ірвуць іх. Ну, і нам, бывае, перападае. Ляжыш сабе ў цяньку, пад каменем, гартаеш. Часам і пра сябе прачытаеш. Вось хоць бы нядаўна ў "ЛіМе" вычытаў:

"На рубяжы XIX і XX стагоддзяў, калі ў беларусаў ужо былі Кастусь Каліноўскі і Францішак Багушэвіч... вядомая польская пісьменніца Марыя Радзевіч стварыла вось такі вобраз беларуса-палешука: "Называецца Грыц, але прозвішча яго легіён і сустрэць яго можна ў кожнай шэрай вёсцы па вялікай прасторы краю... Грыц не ведае, якая вялізная ў яго радзіма і якая шматлікая ў яго радня, як не ведаюць пра гэта дажджавы чарвяк, палявая мыш, крот, карась..."".

Гэта цытата з кнігі Адама Мальдзіса "Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XYIII стагоддзя".

І анекдоты пра нас складаюць. Хіба не помніце?

Паўзуць па асфальце два дажджавых чарвякі. Раптам насустрач ім — аўтамабіль. Першы чарвяк і кажа:

— Як ты думаеш, ён нас зараз разда-я?..

— Ды не, не разда-я... — адказвае другі.

І мы пра людзей таксама анекдоты сачыняем:

По суверэннай Беларусі паўзе падпіска на беларускамоўныя выданні, насустрач ёй — рынак...

Што, не смешна? Пардон, развучыўся апошнім часам анекдоты вясёлыя расказваць. Жыццё такое: то ад курэй хавайся, то ад заядлых рыбакоў...

А ўвогуле, я не пра падпіску, я пра нашу чарвячную нацыянальную годнасць. Неяк чытаў, па-моему, у тым жа самым "ЛіМе" казку пісьменніцы Ніны Маеўскай. Пра нас казачка. Ды якія характары, ды якое багацце перажыванняў, далібог, шкада самога сябе зрабілася. Ды мы ж, аказваецца, у сотню разоў мудрэйшыя і больш чалавечныя за вас, чалавекаў. Хацеў тую казку прачытаць малому, ды недзе газета згубілася. Пэўна, павезлі на макулатуру, на замежныя дэтэктывы мяняць. А шкада. А то ў малога зараз самае любімае слова — "Сеньёра Сальвацьера". Трапіла на зубы, вось і плешча, балазе язык без касцей. І то дзякую Богу, што не "Руслан Імранавіч" альбо не "Нагорны Карабах". Дарэчы, малы сцвярджае, што яны няправільна вымаўляюць, бо трэба ж — Карабас...

А як жа, мы таксама тэлевізію глядзім. Праўда, сеньёру Сальвацьеру нядаўна перавялі на іншы канал "з мэтай забеспячэння рэжыму максімальнага распаўсюджвання на тэрыторыі рэспублікі праграмы Беларускага тэлебачання. Цяпер сеньёра сняжыць, "трасецца тысячамі хваль", але ўсё роўна плача. Толькі на мілым ды маладым яе твары "па тэхнічных прычынах" паявіліся дачасныя зморшчыны.

І што вы думаеце? Можа, мы, радавыя дажджавыя чарвякі, кінуліся цалаваць ручкі роднай незалежнай нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі за тое, што ашчаслівіла нас, дачасна пастарэўшы Мар'яну? А можа, кінуліся з нецярпеннем глядзець "Грамадскую думку", "Эканамічную хвалю", "Існасць", "Метраном" ды нахвальваць: ай, ды малайцы, ай, ды шэдэўры галівудаўскія? Ды не, наш брат ладзіць антэны, купляе тэлепрыстаўкі, ловіць Маскву, як хто можа, і, мабыць, з-за сваёй генетычнай талерантнасці, маўчыць. Пакуль.

Помніце Якуба Коласа:

"Я маўчу, маўчу, трываю,  
Але скора загукаю...".

Я вам так скажу, спадары, ці як цяпер вас велічаць: хіба ж гэдак адраджаюцца?

Хоць і сляпыя мы, і глухія, і зямлю носам рыем, і свету белага не часта бачым, але ж і мы, паверце, божы дар ад ячні адрозніваць умеем. І пакуль на беларускай тэлевізіі, як той воўк, шукаюць лёгкага хлеба, я, пардон, жадаю бачыць на экране таленавітыя ды прафесіянальныя расейскія "Весткі" альбо астанкінскія "Навіны". Лічыце мяне кім хочаце: манкуртам, максімалістам, "гэкачэпістам", але любавацца, як людзі на экране, нібы першакласнікі ha буквары, чытаюць беларускія тэксты, альбо назіраць, як вядучыя, адарваўшыся ад паперкі, двух слоў без памылак звязаць не могуць (ці ж да зместу тут, ці ж да ўмення трымацца?), пардон, глядзець такое нацыянальнае тэлебачанне мяне надоўга не хапае.

І яшчэ вам скажу, спякотна стала на зямлі нашай, няўтульна. І там, і тут прыпякае. У краму хоць ты не запаўзай: цэннікі, хто б падумаў, на шаленства захварэлі, кусацца пачалі. Відаць, таксама ад спякоты. Прадаўцы мастакамі парабіліся: нічога не робяць — цэннікі малююць. За тое і грошы атрымліваюць.

Эканоміка... Праўду бяззубы генсек казаў: "Эканоміка павінна быць...". Аж яе, аказваецца, нямашака. Уся і планавасць — кожны пад сябе грабе, каб, крый Божа, не абанкруціцца ды па свеце з торбаю не пайсці.

Палітыкі залгаліся — самі цяпер разабрацца не могуць, дзе праўда, а дзе хлусня. Сушыць, браточкі, анархія, хаос, бязладдзе, бездухоўнасць. І вось на гэтым самым стракатым дыване — нацыянальнае Адраджэнне раптам, густа замешанае на суверэнітэце ды незалежнасці.

А вы не баіцеся, спадары, што я, радавы савецкі чарвяк, выхаваны на ленінскіх інтэрнацыянальных прынцыпах, раз'ятраны і даведзены да адчаю, палічу пад гарачую руку Адраджэнне вінаватым ва ўсіх грахах зямных? Ці думалі калі, што менавіта на мове роднай магу аднойчы спагнаць усю злосць, што гадамі накаплівалася? Бедная, бедная мова мая! Век табе не шанцавала, дый цяпер не фартуе. Не ў добрую часіну адраджацца надумалася. Гляньце ж, як новыя наменклатуршчыкі, перафарбаваныя пад модны цяпер дэмакратычны колер, сытыя нарабаваным на ўзаконенай спекуляцыі, гляньце ж, пад якім соусам яны наша Адраджэнне падаюць нам — на талерачцы з блакітнай аблямовачкай.

— Не хацелі, — кажуць, — брэжнеўскай застойнай кілбасы па два рублі за кэгэ, ешце ж на здароўе свой дарагі суверэнітэт ды запівайце беларусізацыяй.

На вушка сыкаюць, як змеі, асцярожна, неафіцыйна. А да крэсла начальніцкага дапяўшы, ізноў "беларусамі шчырымі" робяцца, бо ведаюць: чым шчырэй зараз пабеларусіш, тым болей справе напамаўзуеш. Як там у вас, людзей, завецца: АД-ВА-РОТ-НАЯ ПРА-ПАР-ЦЫЯ-НАЛЬ-НАСЦЬ альбо ДЫ-СКРЭ-ДЫ-ТА-ЦЫЯ ПРА-ЦЭ-СУ.

Вось яно, самае жахлівае. І не трэба ствараць ілюзій. І не трэба цешыць сябе донкіхоцкім маралізатарствам, што не хлебам адзіным. Хлебам, браточкі. Толькі хлебам. Галодная кішка заўсёды, ва ўсе часы з'яўлялася рухавіком прагрэсу, заўсёды кіравала ўсімі тымі стварэннямі, хто пад Богам ходзіць.

Вось вам задачка. Думайце ды рашайце. А я, прабачце, глыбей папаўзу зарывацца. Сушыць, парыць, няма паратунку. І потым, зусім не хачу, каб дасужыя рыбакі лавілі на мяне буйную рыбу.

**Дажджавога Чарвяка ўважліва выслухаў і занатаваў Уладзімір МІХНО.**

## "Віншую з... панядзелкам!"

Скажаце, што панядзелак цяжкі і нешчаслівы дзень? Вам упэўнена запярэчаць сябры нашага літаб'яднання. Кожны панядзелак збіраюцца яны пад ютным крылом "Чырвонай змены" ў сваім асобным пакойчыку. Кожны панядзелак прыносяць свае новыя творы, свае развагі, меркаванні, а часам і спрэчкі, – не адным пегасавым хлебам жывуць крынічанцы.

За сотні кіламетраў едуць па мінскія літаратурныя навіны са сваімі творамі сябры з Гародні, з Лепеля, Брэста, хоць і радзей, але не абміне, каб зайсці, аўтарка з Польшчы.

Часта шморгаюць дзверы, і сярод крынічанцаў з'яўляецца новы чалавек. Пасля шклянкі гарачай гарбаты прыхоўваецца сарамлівая чырвань, і "свежаму" аўтару ўжо лягчэй чытаюцца творы. А ў наступны панядзелак ён і не ўспомніць, што калісь быў тут не сваім.

Любяць заходзіць у госці і старэйшыя – літаратары, мастакі, журналісты, навукоўцы. То затуманіць моцную цыгарэту Анатоль Сыс, а то завітае і цэлая літаратурная сям'я Шніпоў-Рублеўскіх. Учэпісты мастак возьмецца за шаржы, а нехта, памыліўшыся адрасам, будзе доўга азірацца на адчыненыя дзверы нашага пакоя.

Так амаль цэлы дзень.

Неяк у адзін з такіх панядзелкаў нарадзілася ідэя свайго літаратурнага альманаху. А калі той ужо быў складзены, прыйшла на "Крыніцы" навіна аб сваім штомесячным часопісе, заснавальнікамі якога выступілі "Чырвоная змена" і газетна-выдавецкая фірма "Белая Русь".

Таму нататнікі з творчымі планамі крынічанцаў значна патаўсцелі.

Дні праходзяць хутка, сумуе адно толькі без вясёлага кіпеню пусты самавар, чакае наступнай сустрэчы.

І ўзгадваецца чыйсьці запіс-досціп у дзённікавым сшытку літаб'яднання: "Віншаванне. Віншую крынічанцаў з чарговым панядзелкам!".

Застаецца пажадаць аднаго – няхай будзе такім і ўвесь тыдзень!

Чакаем маладых аўтараў з новымі творамі!..

Алесь ПАШКЕВІЧ,
старшыня
літаб'яднання
"Крыніцы".



**Літаратурны выпуск "Крыніцы" вядзе пісьменнік Алесь МАСАРЭНКА тэл. 32-56-53.**

### Віталь Замураеў

**ТРЫЯЛЕТ**

*Любая, помнiш?
Была вясна.*
Ул.Караткевіч.

Вясна, што хутка так прайшла
Бялюткім пухам ад таполі,
Да нас не вернецца ніколі
Вясна, што хутка так прайшла...

І толькі ўспомнім мімаволі,
Якою шчыраю была
Вясна, што хутка так прайшла
Бялюткім пухам ад таполі.

Магілёў.

### Зміцер Дзядзенка

* * *

Імчаліся коні ўнамёт,
і енчыў пакрыўджаны вецер,
і нам не было перашкод
у гэтым адчайным Сусвеце.

А коні скаралі прасцяг,
нібыта ў шалёным паходзе...
Нам зорнага неба ззяў сцяг —
адбітак далёкіх стагоддзяў.

Гасцінец знікаў за спіной,
дзе Месяц і Сонца мы стрэлі,
дзе з песняю рушаць старой
нябесных шляхоў менестрэлі.

Ворша.

### Алена Танана

**ТАБЕ, КАБ ВЕДАЎ**

Мая сцежка да цябе — гэта словы.
Адзіная мая сцежка,
патаемная сцежка па дрыгве, цераз багну,
на маленькую выспачку Тваёй памяці.
(Які доўгі аказаўся гэты шлях!).
Збочыш з яе —
і захлюпае, зачвякае пад нагамі дрыгва—
хцівасць і зайздрасць.
Спынішся —
і зацягнуць у багну
хлусня і раўнадушша...
Я так да Цябе спяшаюся!
Сустракай мяне!

Ворша.

### Аксана Данільчык

* * *

Скончыцца мёртвы сезон.
Пачакай яшчэ трошкі...
Прыцемкам наўздагон
паляціць блаславёна: "Бывай!"
І рубінамі сонечных слёз
пад тваё грацыёзныя ножкі
лягуць пырскі ўспамінаў. І вось —
развітанне нарэшце. Няхай.

А праз цемру па срэбнай шашы,
дзе стралу за стралою
поўня шле... Не пішы —
заўтра раніцай выкінеш вон.
Хай шчымлівае паветра звініць
над тваёй галавою
і наперадзе дождж зіхаціць
прадчуваннем хвалюючых дзён.

Горад —іголка і шоў.
Расчыняюцца дзверы.
Неба, хвалі. І неба ізноў.
Так стамлёны вяртаецца сон.
І блакітны палёт. А куды?..
Дзесяць слоў на паперы...
Рукі ночы. І вецер, і дым.
Гэтак скончыцца мёртвы сезон.

Мінск.

### Ніна Загарэўская

* * *

Цябе не бачу — не чакаю,
але шапчу, што прыйдзеш сам:
"Мой слаўны, смутак твой кахаю,
табе ўсю радасць перадам".

Цябе не бачу — не шукаю,
а ўзыдзе твар твой між людзей:
"Мой любы, я твой боль кахаю —
маё каханне абнадзей".

Цябе не ўбачу... І знікае
святло, што ўспыхнула ўначы,
і ўжо замала мне "кахаю" —
жыву, табою жывучы.

в.Мікалаеўшчына.



### Міра Лукша

* * *

*Сержуку Анішчанку*

Матылёк — трывожны пасланец ночы.
Матылёк сваёй пані баіцца.
Матылёк аслеплены выбухамі белага святла.
Матылёк з незагоеным пялёсткам крыла.

* * *

Самотная былінка травы.
Абмінула яе шчырая каса,
іншым травам зламаўшы каленцы.

* * *

Шчылінка крыку ў прасторы.
Асколак няўмольнага часу.
Недапітая сляза расы.
Зорны пыл на астылай зямлі.

Беласток.

### Ігар Карповіч

**ВІЛЬГОТНЫЯ ПАВЕІ**

Здаецца, не ліла багата навальніца
і не прыйшла пара гуляць вятрам-завеям,
а кропелькі вады адкуль маглі з'явіцца
на твары дзеўчыны пры несамотным небе?
Чаму ў цябе з усмешкаю вільготныя павеі?

Скажы, хто ж гэта мог пакрыўдзіць, растрывожыць
Пяшчоту, Дабрыню? Маю багіню, фею?
Маўчыш... Я зразумеў... Так, найбольшым болем
адорыць толькі той, каго кахаеш верна.
Не дзіва, што ў цябе вільготныя павеі.

Даруй мне, мой анёл, нахабную адсутнасць.
Няхай згарыць твой сум, як вогнішча-паленне.
Зачынемся ўдваіх, бо час ляціць так хутка!
Ці варта адзінота, каб з-за яе хварэў?!
Змачы мне вусны вільгаццю з павеяў!

Мінск.

### Юлія АЛЕСЬНІНА

* * *

Мы стаялі з табой, размаўлялі,
сліва квітнела над намі,
ліхтар то міргаў, то згасаў...
Гэты вечар нагадаў
мне той раман,
дзе першае каханне
і рамантычнае спатканне.

Цяпер я знаю — не падман!-

рамантыка існуе.
(Хай скептык мне даруе!)

А зараз то здаецца сном,
дзе чарадзейны добры гном
стварыў для нас і ветлы вечар,
што ахінуў прыемна плечы,
духмяны пах слівовай квецені —
на ўсё жыццё ў душы адмеціны.

* * *

Чэзьне смутак марнай слотай,
покрыў долу з душы ападае,
спавівае ціха крокі —
і перад светам я, як Даная.
Залатым даждком Сусвет
у сутонне розуму пранікае,
даю перад Небам любові абет
і горкі яблык на шчасце з'ядаю.

### Вольга Акуліч

* * *

Засталося па першым сэнсе,
Склаўшы рукі, прыйсці з павіннай,
Шызануцца дарэшты на сэксе,
Прадавацца за ўспаміны,
Меркаваць пра ўсё на свеце,
Пазнаваць невядомых па рухах,
Паміж культаў цяжкіх атлецік,
Халадэчы і завірухі
У дажджлівы згубіцца вечар:
І ніколі ўжо не сустрэцца.
З мармуроў схаладзелых плечы —
Распранаючы апячэцца.
І палююць на нас надзеі,
І хвалюе нас безнадзейнасць,
Пад вачыма народзяць цені
Нежывую ў жытле бяздзейнасць.
...Вось і ўсё. Зачыніце дзверы.
Вось і ўсё — і заўсёдны смутак:
Пазычай — у халодных веры
І вяртайся да прастытутак.



Падпіска — 93. Наш індэкс 63129




Музычны выпуск "Нотны аркуш" вядзе журналіст Вітаўт Мартыненка, тэл. 39-87-94.

№14 (204)

*З гісторыі*

# ДЗЕСЯЦЬ ГАДОЎ АДКРЫЦЦЯЎ

*Папярэднікам нашага музычнага выпуску ў "Чырвонай змене" была да 1982 года рубрыка "Музычны аўторак". З'яўляліся рэдкія і адзінкавыя публікацыі, больш таго — звычайна перадрукі матэрыялаў ТАСС, АДН, маскоўскіх газет і часопісаў. Таму мы і лічым іх толькі перадгісторыяй. Гісторыя пачынаецца ад 1982 года, калі тадышні карэспандэнт аддзела культуры "ЧЗ" (а цяпер кінакрытык) Ігар Аўдзееў вырашыў арганізаваць стабільны клуб аматараў музыкі пры газеце, і тады 2—3 разы ў месяц па суботах пачала з'яўляцца шматпланавая і шматжанравая музычная падборка пад назвай "Мелодыя".*

Пачатак 80-х... Нялёгкі быў час для папулярнай музыкі, увогуле для творчасці. Маразматычны хаўрус перастарэлых дзяржаўных кіраўнікоў забараняў цэлыя напрамкі мастацтва. Мо хтосьці з нашых чытачоў памятае: цяжка было не толькі выканаўцам гэві-мэтал-рока (міліцыя нават рабіла налёты на клубы філафаністаў і канфіскоўвала цяжкарокавыя дыскі ў маладых меламанаў), але і прадстаўнікам гісторыка-рамантычнага напрамку ў літаратуры, імпрэсіяністычнага напрамку ў жывапісе і г.д.

Акурат у 1982 годзе клуб "Мелодыя" пачаў шукаць кантактаў з людзьмі, непасрэдна звязанымі з музыкай, зацікаўленымі ў інфармацыйнай незалежнасці беларускай маладзёжнай прэсы ад чужых крыніц. І пад час сустрэчы ў Менскім клубе філафаністаў Ігар Аўдзееў запрасіў да супрацоўніцтва мяне і Анатоля Мяльгуя (я акурат завяршаў журналісцкую адукацыю ва універсітэце, а Мяльгуй неўзабаве пад уплывам новай стыхіі кінуў палітэх і нанова паступіў на журналістыку). У Лідскім рок-клубе знайшлі яшчэ аднаго музычна-схільнага журналіста Аляксандра Свірыдава. І... у "Чырвонай змене" з'явіўся свой музычны актыў, свае музычныя матэрыялы.

Мы з Анатолем распачалі свой шлях з рэпартажаў аб праводзімым у той час у Менску Фестывалі савецкай папулярнай музыкі. Упершыню на старонкі прэсы тады вылезлі "Магнетык бэнд", Святлана Кульпа, а потым " Машына часу", "Дыялог", "Аўтограф"... Алесь Свірыдаў, як старшыня інфармацыйнага сектара Лідскага клуба аматараў рока, меў кантакты з наваствораным Ленінградскім рок-клубам, і... шырокая публіка ўпершыню пачала чытаць пра "Алісу", "Мануфактуру", "Кіно"... Так, у "Чырвонай змене" гэта загучала напачатку 80-х. Тады ж газета арганізавала і свой штоквартальны гіт-парад, у якім упершыню побач з зоркамі сусветнага рока ("Рэйнбоў", "Бітлз", "Амега", "Маанам", "Джэнезіс") загучалі і імёны беларускіх выканаўцаў ("Песняры", "Бонда", "Блізняты").

Выніковыя звесткі нашых гіт-парадаў пачалі трапляць у маладзёжныя выданні Масквы, Варшавы, Сафіі. У рэдакцыю неяк завітаў музычны крытык з Масквы Міхаіл Сігалаў. "Хлопцы,— сказаў ён,— тое, што вы робіце — неверагодна. Публікацыі, выказванні — як у вольным свеце. Вам трэба трошкі затармазіць, а то шкада будзе, калі вас зачыняць".

А нас і зачынялі, нас называлі "апалагетамі заходняй мас-культуры горшага гатунку". Штоквартальны гіт-парад часам выходзіў два, а то і раз на год, а тое, што выходзіла, нярэдка даходзіла да чытача ў зменёным або скарочаным выглядзе. З якой прычыны? Чытач мог здагадацца яшчэ і тады.

Скажам, у аглядзе пошты "Музпарада "ЧЗ" № 12 ёсць цытата з ліста нашага чытача з Сыктыўкара С.В.Сакалова: "Прабачце за памылкі — я не зусім добра валодаю беларускай мовай, бо нарадзіўся і жыву ў Комі АССР. А "Чырвоную змену" выпісвае мой бацька, і ён часта тлумачыць мне незразумелае". Няўжо нікога не здзівіла, што адзін комі не разумее беларускай мовы, а другі разумее ды яшчэ тлумачыць іншым? Дык вось што вылецела з тэксту: "Мой бацька — ён па нацыянальнасці беларус — часта тлумачыць мне незразумелае".

Гурт "Магістрат" – гісторыя беларускага рока, гісторыя "Нотнага аркуша".





Аўтары нью-йоркскай кнігі – нашыя аўтары.

Тады, у 1987, на другім годзе перабудовы, размовы пра нешта нацыянальнае былі таксама пад забаронай. А менавіта ў той час (дакладней, з студзеня 1986 года) наш музычны выпуск выйшаў на нацыянальную дарогу. Ужо каля паўгода, як Ігар Аўдзееў са згоды тадышняга рэдактара газеты В.Плюскова перадаў мне рэдагаванне музычнай старонкі. Мы змянілі інтэр-назву "Мелодыя" на больш свойскую "Нотны аркуш", павялічылі аб'ёмы падборак і аўтарскі актыў. А самае галоўнае — задумаліся над пытаннем: "Чаму мы, беларусы, жадаючы музыкі, скіроўваем свае вушы-лакатары або толькі на ўсход, або толькі на захад? Чаму "Московский комсомолец" можа жыць выключна сваёй музыкай, а мы — выключна чужой? Няўжо ў нас нічога няма?"

Мы пачалі шукаць і адчулі, што ёсць. Ёсць беларускія музыкі, якія імкнуцца не толькі "закалачваць" грошы па рэстаранах, але хочуць ствараць. І хоць творчасць тады не аплачвалася (прафесійных рок-гуртаў тады не было, а нефілярманічным забаранялася браць грошы за сваю творчую працу), мы пакрысе пачалі знаходзіць у розных заводскіх клубах, у навуковых арганізацыях, у студэнцкіх інтэрнатах апантаных творчасцю маладых музыкаў. Спачатку адшукаліся ў інстытуце народнай гаспадаркі сімфарокавыя "Блізняты", потым, робячы сумесную з тэлебачаннем замалёўку пра іх, напаткалі хлопцаў з "Студыі-7". Прыгадалі ранейшыя эпізадычныя канцэрты і адшукалі "Мрою". Разам нас усіх пакрысе агортвала і выхоўвала нацыянальная ідэя. І мы вырашылі стварыць нацыянальны рок-клуб.

Наўрад ці гэта ажыццявілася б у той час, калі сябры Лідскага клуба аматараў рока час ад часу паведамлялі нам пра жандарскія вобыскі ў іх і міліцэйскія разгоны іхніх пасяджэнняў. Але "крытычныя" артыкулы ў "Нотным аркушы" пра існаванне падпольнага рока занепакоілі пэўных прадстаўнікоў улады магчымасцю бескантрольнага развіцця падзей, і яны вырашылі "дазволіць" нам аб'яднацца.

30 красавіка 1986 года музычны актыў "Нотнага аркуша" праводзіў урачыстае адкрыццё рок-клуба "Няміга". Акрамя гуртоў-арганізатараў у тым канцэрце прыняў удзел і "Магістрат", які далучыўся да нашай ідэі пасля публікацый у "Нотным аркушы".

Праўда, тадышняе кіраўніцтва ЦК камсамола забараніла публікаваць рэпартаж з таго канцэрта-адкрыцця, і... ён быў апублікаваны за мяжой. Сам гэты факт прымусіў улады паслабіць кантроль за публікацыямі "Нотнага аркуша" (хай лепш пішуць тут, чым па ўсім свеце разносяць) і музычны выпуск "Чырвонай змены" распачынае серыю беларускіх рок-адкрыццяў: "Бонда" (красавік, 1986), "Блізняты" (лістапад, 1986), "Мроя" (студзень, 1987), "Магістрат" (жнівень, 1987), "Гульня ў дождж" (кастрычнік, 1987) і т.д.

Для чытача гэта проста публікацыі, а для аўтараў (сярод іх А.Мяльгуй, У.Крамушчанка, А.Радчанка, я і шэраг іншых) гэта этапы барацьбы. Цяжка забыць, як за артыкул пра "Бонду" (такую назву абрала былая "Студыя-7") мяне тры разы выклікалі на дыван да І сакратара ЦК ЛКСМБ В.Гурына. Прычына цяпер выглядае смешнай: "Чаму ты пішаш пра самадзейныя гурты, калі яны не маюць права нават на назву?" А праблема з назвамі ўзнікла таму, што гурты рок-клуба "Няміга" вырашылі ўключыцца ў нацыянальна-адраджэнскі працэс, пачынаючы ад, здавалася, дробязі — ад назвы. Яны шукалі сабе гучныя ды арыгінальныя назвы ў беларускай гісторыі, у забароненых тады слоўніках Ластоўскага, Насовіча, Станкевіча... "Бонда", "Магістрат", "Грунвальд", "Мроя"... Гэта зусім не тое, што "Студыя", "Інтэр", "Каскад", якіх поўна ў кожным мікрараёне ад Буга да Курылаў.

Цяпер часам кажуць пра пэўны аўтарытэт "Нотнага аркуша". І заваяваны ён быў не тым, што мы імкнуліся толькі падладжвацца пад "бег часу", ды папісваць пра папулярнейшых зорак. Мы імкнуліся давесці распрацаваную намі ж канцэпцыю асэнсаванага ўспрыняцця цэльнага музычнага дрэва. А зорак мы стварылі самі.

Неяк адзін калега, прачытаўшы ў "Нотным аркушы" артыкул пра "Мрою", папракнуў нас: "Што вы пішаце пра ўсялякую лажу. Гэтага ж ніхто шырока не ведае і ведаць не будзе".

Потым, калі тая ж "Мроя" выдала першую беларускую рок-кружэлку на "Мелодыі", калі яна паспяхова выступіла ў Парыжы, Мюнхене, Варшаве, той крытык публічна забраў свае словы. Нам гэтага рабіць не даводзілася. Ніводнае з нашых "нікому невядомых" адкрыццяў не спляжыла спадзяванняў на рост уплыву нацыянальнай папулярнай музыкі. Іхнія песні шырока гучаць сёння не толькі ў Менску, але і з радыёхваль Сіднея, Мюнхена, Варшавы, Таліна, Вільні, Беластока...

Дарэчы, гэтыя адкрыцці — не толькі рок. Былі ж і публікацыі пра Уладзіміра Кандрусевіча, Валянціну Сярых, Данчыка, Лявона Барткевіча, пра "Харошкі", "Свята"...

Трэба сказаць, што татальнае панаванне цэнзуры на першых этапах дзейнасці "Нотнага аркуша" праз скарачэнні і забароны цэлых артыкулаў не далі магчымасці данесці і развіць нашую канцэпцыю і... Дзякуй Богу! Нават гэтая дэструктыўная акалічнасць спарадзіла стваральную ідэю аднавіць усё скарочанае і дэфармаванае ды дэталёва разбудаваць у асобнай кнізе. Гэткім чынам і з'явілася нашая з А.Мяльгуем праца "Праз рок-прызму" (1—240 стар., выдавецтва "БІНІМ", Нью-Йорк, 1989).

І "Нотны аркуш" працягваецца. За плячыма — дзесяць гадоў, 200 выпускаў, 50 фотаплакатаў і поўная інфармацыя пра тое, што абмінаюць усе іншыя выданні. А што наперадзе?

Карэспандэнты "Нотнага аркуша" зноў пабываюць на набіраючых сілу і аўтарытэт фестывалях "Бітва пад Воршай", "Рока-кола", "Басовішча", раскажуць пра замежныя гастролі нашых зорак, сустрэнуцца і паведамяць вам пра сусветных куміраў... Штомесяц будуць з'яўляцца і на нашых старонках, і на хвалях радыё "Свабода" сумесныя выпускі нашага новага, ужо цалкам беларускага гіт-парада.

Самае галоўнае, каб мы заўсёды заставаліся разам. Нават у часы застою не толькі "Нотны аркуш" дапамагаў сваім чытачам, але і яны выручалі яго. Прыгадайце, калі быў забаронены цяжкі рок, а нас абвінавацілі ў навязванні вам сваіх вузкіх поглядаў, выйшаў 104-ы выпуск "Нотнага аркуша" (гл. "ЧЗ" ад 22.XI.1986), які цалкам складаўся з допісаў нашых чытачоў і пра той жа цяжкі рок, і пра новы аб'ект цкавання брэйк-данс, і проста пра нашую працу.

Дзякуем усім тым, хто і сёння застаецца з намі, а гэта значыць — з роднай песняй, з роднай мовай, з Беларуссю. Мы з вамі перажылі голад на ўсё гэта, дык перажывём і насланнё сурагату пад "усё гэта".

Пра "Нотны аркуш",
сяброў яго і сябе
расказваў, пахваляўся
і рэкламаваў
вядучы
Вітаўт МАРТЫНЕНКА.

Фота У. Панады і С. Брушко.

Менска-Полацкі рок-аўтобус перад адпраўкай герояў "Нотнага аркуша" на "Басовішча".



Падпіска-93. Наш індэкс 63129.

Рубрыка "9х12", бадай, самая маладая ў нашай газеце. Прэм'ера яе адбылася ў бягучым 1992 годзе. В.Лявонцьеў, У.Талькоў, В.Шалкевіч, А.Шадзько, З.Яўтуховіч ужо паспелі падарыць вам, шаноўныя чытачы, свае "фатаграфіі 9х12", а разам з імі і трохі распавялі вам пра сваё "жыццё-быццё". Дзякуй ім. Сёння на сустрэчу прыйшоў славуты японскі рэжысёр Акіра Курасава. Дарэчы, мне здаецца гэта добрым крокам. Беларусь – суверэнная дзяржава ў супольніцтве ўсіх краін свету, і знаёмства з сусветнай культурай і прадстаўнікамі яе неабходна хаця б дзеля ўзбагачэння першай лепшымі ўзорамі беларускага мастацтва.

Прыемна, што нашу новую рубрыку ўжо заўважылі чытачы. І не толькі падтрымалі яе, але і ўнеслі свае прапановы, падкрэсліваючы гэтым сваю зацікаўленасць. Вось, напрыклад, што піша Літа Караткевіч з Гомеля: "... Асабіста ж я хачу пажадаць вам разнастайнасці, шырокага ахопу відаў мастацтва, цікавых пытанняў і цікавых гасцей. Добра б было і бліжэй пазнаёміцца з А.Марачкіным, А.Вольскім, А.Мальдзісам, Л.Дранько-Майсюком, А.Глобусам, С.Станютай..." Дзякуй, Літа, за пісьмо. Вельмі хацелася б, каб нашы чытачы заўсёды дапамагалі нам у пошуку гасцей "ЧЗ".

Што тычыцца ўвогуле нашай "культурнай праграмы" на бліжэйшы час, то яна, па магчымасці, будзе самай разнастайнай і складаць яе будзе тое, што складае сённяшні і заўтрашні дзень "Беларусі культурнай". Жывапіс, музыка, тэатральнае і кінамастацтва, культура вёскі і, канешне, сустрэчы з цікавымі людзьмі, чыё ўласнае жыццё цесна перапляцецца з творчым жыццём на карысць нашай Бацькаўшчыны.



**Паласу падрыхтавала Майя ШЭНДРЫК, аглядальнік "ЧЗ" па пытаннях культуры. Тэл. 32-50-01.**

# НА ПЛАНЕТАРНАЙ ПЛОШЧЫ АКІРЫ КУРАСАВЫ

*Адной з галоўных падзей 44-га Міжнароднага кінафестывалю ў Канах стаў паказ новай работы рэжысёра Акіры Курасавы. Фільм "Рапсодыя ў жніўні" ўваходзіў у афіцыйную праграму, хаця не ўдзельнічаў у конкурсе.*

*— Я б не хацеў, каб у гэтым фільме бачылі толькі антываенную тэму, — сказаў журналістам пасля прагляду А.Курасава. — Ягоны сэнс шырэйшы. Я хацеў пагаварыць у ім пра чалавечую дабрыню, пра неабходнасць памятаць мінулае і разумець сваіх блізкіх, пра ўсё тое, што робіць чалавека па-сапраўднаму чалавечным.*

*Гэтай жа тэме прысвечаны і папярэдні, у многім аўтабіяграфічны фільм "імператара японскага кіно" "Сны". Ён распавядае пра пачныя прывіды вялікага рэжысёра, яго самыя патаемныя думкі — пра жыццё, смерць, жахі атамнай вайны, прыроду.*

*У інтэрв'ю іспанскаму штотыднёвіку "Камбіо-16" А.Курасава расказвае пра свае работы, пра карціну "Сны", пра кіно наогул, пра спробу самазабойства і пра разуменне непазбежнасці смерці.*

— Скажыце, сон японца адрозніваецца чым-небудзь ад сну іспанца або француза?

— Не. Гэта залежыць ад асобы, а не ад нацыянальнасці. Мне здаецца, сны кожнага своеасаблівыя. Адзін іх не бачыць наогул, другі іх не памятае, у трэцяга ўсё афарбавана ў чорна-белы колер.

— Вашыя сны заўсёды каляровыя?

— Заўсёды.

— Сны, пра якія вы расказваеце ў сваім фільме, вы ўбачылі нядаўна?

— Гэта сны розных перыядаў майго жыцця. Некаторыя — першыя два — вельмі даўнія, яшчэ з дзяцінства, але я іх добра памятаю. Іншыя адносяцца да розных перыядаў майго "дарослага" жыцця. Усе гэтыя сны я "падараваў" галоўнаму герою карціны.

— Калі вы ўбачылі сон, які ў фільме названы "Завіруха"?

— Калі мне было 30 гадоў, ува мне жыў страх. Нават прырода палохала мяне. Я пастаянна адчуваў крохкасць чалавечай істоты. У снах я бачыў сябе на краі гібелі. Гэта працягвалася даволі доўга.

Што ж датычыцца снежнай феі, дык гэта японская легенда: фея з'яўляецца, калі нехта павінен памерці. У свой час і я бачыў яе.

— Хто тая дзяўчынка, якая з'яўляецца ў другім сне — "Персікавы сад у кветках"?

— Гэты вобраз — памяць пра маю сястру, якая памерла, калі я быў яшчэ маленькі. Яе звалі Мімойо (Персік). Адна з гераінь фільма, падобная да яе, гаворыць: "Мы — душа персікавага сада".

— Скажыце, вас не палохае тое, што вы зрабілі такі асаблівы фільм?

— Гэта праўда, што фільм асаблівы. Але не, гэта не палохае мяне. Гэта вельмі захапляльна.

— Жыццё і яго разбурэнне — галоўная тэма двух апошніх сноў вашага фільма?

— Я ніколі не раблю фільмы "на тэму". Я жыву ў сучаснай Японіі, якая падказвае мне розныя ідэі, якія ўвасабляюцца ў маім кіно. Маё кіно — не тэматычнае, гэта кіно пачуццяў. А тыя сны, пра якія вы гаворыце, — апошнія з убачаных мною.

— Ці сапраўды вы баіцеся масавай гібелі японцаў у выніку ядзернай катастрофы?

— Я не лічу сябе песімістам, але неабходна глядзець праўдзе ў вочы. Сапраўдны песіміст той, хто не хоча нічога бачыць і ведаць. Многія японцы не жадаюць гаварыць пра магчымую ядзерную катастрофу. Трэба ўмець бачыць далей за свой нос. У нас шмат праблем, якія мы павінны вырашыць. У Японіі вельмі шмат атамных электрастанцый, якія ствараюць рэальную пагрозу для краіны. Гэтая пагроза і дала імпульс маім апошнім снам.

— У сёмым сне вы расказалі пра гібель рода чалавечага...

— Калі загіне прырода, то загіне і чалавецтва. На жаль, сёння гэта адна з самых істотных праблем, якія стаяць перад намі.

— У фільме вы расказваеце пра жахі японскага мілітарызму. Вы лічыце, што вашым суайчыннікам трэба ведаць праўду пра нябожчыка-імператара Хірахіта і пра сучасную гісторыю Японіі?

— Людзей трэба прымусіць даведацца пра праўду, аднак вельмі рызыкоўна рабіць фільм пра імператара. Правыя экстрэмісты гэтага не пацерпяць.

— Стары ў апошнім сне — гэта вы самі?

— Гэты стары мне прысніўся. Ён персанаж "ноо" — традыцыйнага японскага тэатра. Яму 103 гады, а мне толькі 80. Хацеў бы я пражыць столькі, колькі ён, і памерці, як ён. Стары, які пражыў вялікае жыццё, — гэта прыклад таго, як трэба паміраць, пражыўшы жыццё, поўнае працы і добрых спраў.

— Ці паўплывала на вас якая-небудзь канцэпцыя сноў Дастаеўскага?

— Яна натхніла мяне. Дастаеўскі гаворыць, што пачуцці чалавечыя вызваляюцца ў снах, у сне чалавек знаходзіць вялікі стваральны талент. Творы Дастаеўскага навялі мяне на думку пра мае асабістыя сны. Я апісаў адзін з іх, затым другі, трэці... І так да адзінаццатага. Мае сябры, прачытаўшы гэтыя апісанні, угаварылі мяне зняць фільм.

— Але чаму ў яго ўвайшло толькі восем сноў?

— Справа ў тым, што тры сны былі чыста сюррэалістычнымі. Іх было вельмі цяжка здымаць як па тэхнічных, так і па фінансавых прычынах, ды і фільм атрымаўся б вельмі доўгі.

— Прэса называе "Сны" фільмам-запаветам маэстра Акіры Курасавы.

— Гэта журналісцкія штучкі. Яшчэ ж не знята столькі фільмаў. Вось я скончыў "Рапсодыю ў жніўні". Гэтая карціна пабудавана на адным з японскіх раманаў і распавядае пра смерць старой. Ён выйшаў на экраны ў гэтым годзе.

— У сваёй кнізе "Падобіе аўтабіяграфіі" вы гаворыце пра сябе як пра слабага чалавека, які апрануў маску волата. Гэта на самой справе так?

— Сапраўды, я слабы фізічна. Робячы гімнастыку, я не падымаю штангу. Але духоўна я не адчуваю сябе слабым.

— Чаму вы, чалавек, які валодае такой жыццёвай сілай, спрабавалі 20 гадоў таму пакончыць з сабой? Што прывяло вас да гэтага трагічнага рашэння?

— Была хвароба, імя якой — дэпрэсія. Так гаварылі ўрачы. Яна праходзіць, і чалавек вылечваецца.

— Якой была ваша першая сустрэча з кінематографам?

— З дзяцінства бацька вадзіў мяне ў кіно, аднак першым кінаўзрушаннем стаў фільм "Вуліца" Абеля Ганса.

— Ці не перашкаджае вам тое, што на радзіме, у Японіі, вашыя фільмы сустракаюць без энтузіязму?

— Я вельмі люблю кіно. І незалежна ад таго, ці падтрымліваюць мяне ў маёй краіне, я буду здымаць. Да таго ж у Японіі ў мяне ёсць свой глядач. Праўда, астатнія мяне цярпець не могуць. Не ведаю чаму — ім жа горш. Але як бы тое ні было, мой новы фільм "Рапсодыя ў жніўні" — упершыню за апошнія 20 гадоў створаны маімі суайчыннікамі.

— Магчыма, японцы не разумеюць вашых фільмаў?

— Не. Іх злуе мая вядомасць за мяжой, японцы гэтага не любяць. Заўсёды знаходзяцца людзі, якія бачаць дэфекты нават у самой дасканаласці.

— Вы гаварылі, што дагэтуль не спасціглі сутнасці кіно. Калі, мяркуеце, вам удасца гэта зрабіць?

— Я не гаварыў, што поўнасцю не спасціг сутнасці кінематографа. Гэта значыць, ва ўсіх маіх фільмах ёсць толькі тры або чатыры фрагменты, якія можна назваць сапраўдным кіно. Я хачу стварыць фільм, які ўвесь будзе такім, сапраўдным.

— Колькі сапраўдных фрагментаў у вашых апошніх фільмах?

— Судзіць пра гэта — справа гледачоў. Калі кіно ім падабаецца, яны такія фрагменты адчуваюць.

— Ці існуе маральная этыка кінематаграфіста?

— Глядач прыходзіць у залу атрымліваць задавальненне. Я заўсёды сумленны ў сваіх карцінах, але фільм — гэта не штосьці аднастайнае, ён шматгранны. Галоўнае — быць верным самому сабе, сваёй справе. Тут няма нічога агульнага з палітычным кампрамісам.

Кіно — гэта штосьці фантастычнае, гэта тая сусветная плошча, на якой сустракаюцца самыя розныя людзі з іх горам і радасцю, успамінамі і надзеямі. Кіно аб'ядноўвае людзей — і ў гэтым яго галоўная сіла.

**Падрыхтавала М.ШЭНДРЫК.**

Падпіска—93. Наш індэкс 63129

Сённяшні выпуск "Крымінальнага бюро" – незвычайны. Справа ў тым, што на месцы артыкула "Людцы добрыя, дапамажыце!" планаваўся зусім іншы матэрыял – судовы нарыс. Аднак праблему, якую ўзнімае менавіта гэты артыкул – кругавая парука вакол цёмных бакоў жыцця былой Савецкай Арміі, – мацярынскі боль не маглі пакінуць рэдакцыю абыякавай, і мы палічылі неабходным падключыцца да расследавання абставін знікнення беларускага юнака пад час службы ў войску.

Дарэчы, "Крымінальнае бюро" мяркуе і надалей не проста расказваць пра сучасную крымінальную сітуацыю на Беларусі, а паказваць дагэтуль неасветленыя яе бакі. У планах аўтараў і вядучага гэтай рубрыкі – камандзіроўка ў дысбат, нарысы пра незвычайныя віды злачынстваў: "заказныя" забойствы, кіднэпінг, шантаж, карупцыю, хабарніцтва. Дапамогуць знайсці выйсце з цяжкай жыццёвай сітуацыі парады і каментарыі спецыялістаў, працягне свае заняткі "Школа прыватных дэтэктываў". Па-ранейшаму будзем друкаваць споведзі з-за калючага дроту ў рубрыцы "Мёртвая зона". Рэдакцыя рыхтуе для сваіх падпісчыкаў-93 кароткія замежныя і беларускія дэтэктывы, працяг конкурсу крымінальных анекдотаў "Смех за кратамі" і шмат чаго іншага.

# "Людцы добрыя, дапамажыце!"

## Хто разгадае тайну знікнення салдата-беларуса?

Яна нясмела адчыніла дзверы кабінета і, ледзь пераступіўшы парог расплакалася. "Людцы добрыя, не адмоўце! Дапамажыце ў маёй бядзе!" Камечачы вузлаватымі навярэджанымі рукамі мокрую ад бясконцых слёз насоўку, яна ўсё спрабавала спыніцца, узяць сябе ў рукі і пачаць гаварыць. Але зноў і зноў зрывалася на плач. "Родненькія мае, толькі выслухайце". Слёзы душылі яе. Яна адчайна супраціўлялася ім, напалохана аглядаючыся па баках, нібыта баялася, што яе могуць раптам перапыніць, не выслухаць.

... Ён павінен быў вярнуцца восенню 84-га. Як усе хлопцы з ягонага прызыву. Яны прыйшлі, ён — не. Ні ўвосень, ні зімой, ні наступнай восенню. Не прыйшоў дагэтуль. Яе сын, яе хлопчык, яе Грышачка.

Не, пад час вайсковага вучэння ён не загінуў. Не стаў ахвярай яшчэ частых у арміі нядбалых адносін са зброяй. Не наклаў на сябе рукі, не вытрымаўшы здзекаў "дзядоў". Ён знік. Прапаў без вестак.

У Ленінградскім вышэйшым будаўнічым камандным вучылішчы, дзе яе сын служыў тэрміновую ваенным будаўніком, маці толкам нічога не сказалі. Так, быў такі радавы Рыгор Гара, служыў, як усе, нічым асабліва не вызначаўся. Адзін час нават ротную "капцёрку" даручылі. І раптам — знік. Калі, куды, пры якіх абставінах — ніхто не ведае. Ці толькі робяць выгляд, што не ведаюць.




У пракуратуры Ленінградскай ваеннай акругі, куды Анастасію Рыгораўну з мужам выклікалі тады ж, восем гадоў таму, паводзілі сябе, паводле яе слоў, даволі дзіўна. Выклікалі для апазнання трупа сына, так ім сказалі. Павінны былі пагутарыць са следчым і ехаць у морг. Гутарка адбылася: звычайныя дзяжурныя пытанні (якім гадаваўся, як вучыўся, як адносіўся да бацькоў). Доўгія чатыры дні іх адпраўлялі ад аднаго мужчыны ў пагонах, да другога, з аднаго "высокага" кабінета ў наступны. У морг так і не павезлі. Няма трупа — паведамілі на развітанне. А чарговы "мужчына ў пагонах" з пракуратуры, які прапанаваў іх праводзіць, проста кінуў пасярод вуліцы.

У крымінальным вышуку горада Барысава, куды жанчына звярнулася за дапамогай, узялі 2 тысячы рублёў, паабяцалі, што абвесцяць усесаюзны вышук, што будуць шукаць і самі. Не адзін год мінуў пасля тых абяцанкаў...

На Міншчыне жывуць два саслужыўцы Рыгора Гары (сам ён з Крупскага раёна Мінскай вобласці). Анастасія Рыгораўна сустракалася з імі. Адзін сказаў, што яе сына ў жывых няма, другі — што жывы. Дзе ён, што з ім, як загінуў, калі жывы, то чаму хаваецца — невядома. І адзін маўчыць, і другі маўчыць. Анастасія Рыгораўна лічыць, што яны нешта ўтойваюць. Не жадаюць расказваць, чагосьці баяцца?

Аднак адзін з іх неяк усё-такі расказаў няўцешнай маці страшную гісторыю. Яны ехалі ў кузаве машыны. Наперадзе ішоў бензавоз. За "баранкай" — вадзіцель, побач — старшына. Раптам бензавоз перакуліўся і загарэўся. Рыгор Гара пабег ратаваць людзей. Сам абгарэў, абпаліў ногі. І яшчэ. На яго спісалі ўсю віну. І "павесілі" ўсю спаленую маёмасць (нібыта таму, што быў "капцёршчыкам"). І далі 15 гадоў зняволення.

Ці ёсць логіка ў гэтым расказе? Ці верыць яму, ці не? Хто ведае... Калі гэта праўда, няхай нават не ўся, дык чаму бацькам не расказалі яё ў вайсковай часці, дзе служыў сын, у акруговай пракуратуры?

Ніводная з бясконцых сустрэч і паездак ні на крок не прыблізіла маці да разгадкі знікнення сына.

Яна без стомы чакае. І свята верыць. Яна звярталася да варажбітак і чараўніц. Яна просіць Бога. І бясконца моліцца. У яе немаладым жыцці застаўся адзін-адзіны змест — знайсці свайго Грышачку. Жывога ці мёртвага.

Гісторыя гэтай салдацкай маці ўзрушыла нас. Што мы можам зрабіць, як жа дапамагчы ёй?

Не ўсё ў гэтай гісторыі "чыста". Налёт таямнічасці і заблытанасці, відаць, усё-такі не выпадковы. Здаецца, камусьці вельмі патрэбна схаваць тое, што адбылося восем гадоў таму. Праз пару месяцаў пойдзе дзевяты год яе чакання. Ворагу не пажадаеш такой долі.

Публікуючы сёння фотаздымак Рыгора Гары мы звяртаемся да ўсіх, каму што-небудзь вядома пра лёс гэтага чалавека: адгукніцеся, раскажыце нам усё, што вы ведаеце. Напішыце або патэлефануйце па тэлефону 39-24-90. Канфедэнцыяльнасць інфармацыі гарантуем.

**Капітан В.МАНЮЦІН.**

## Інфа-крым Інфа-крым Інфа-крым

### МАЦІ-ЗЛАЧЫНЦЫ

7 верасня позна вечарам у Завадскі аддзел міліцыі сталіцы звярнулася 18-гадовая студэнтка БДУ, якую за дзесяць хвілін да гэтага сустрэлі на вуліцы тры невядомыя дзяўчыны, збілі і адабралі сумачку з грашыма. Праз некалькі гадзін міліцыянеры па прыкметах затрымалі нецвярозых 19-гадовую С., якая знаходзіцца ў адпачынку па дагляду дзіцяці, 17-гадовую Б., якая таксама даглядае дзіця, і М., жыхарку Цюменскай вобласці. У затрыманых знойдзена выкрадзеная сумачка.

### "Я БУДУ ПЛАКАЦЬ І СМЯЯЦЦА, КАЛІ ЎСЯДУСЯ Ў "МЕРСЕДЭС"..."

Літаральна, як у гэтай песні, дзейнічалі 6 верасня 14-гадовы вучань 7-га класа адной з мінскіх школ Т. і нідзе не працуючы 19-гадовы Х. Спачатку, калі яны выкралі аўтамашыну М-2140, малалетнія злачынцы смяяліся. А калі ў чатыры гадзіны раніцы іх затрымала міліцыя, давялося ўжо плакаць.

### КАШМАР НА ВУЛІЦЫ ГОЛУБЕВА

Прыкладна ў гэты ж час брыгада "хуткай дапамогі" знайшла на вуліцы Голубева ў гарадскім мікраёне Паўднёвы Захад 23-гадовага І. з пранікаючым нажавым раненнем грудзей, які па дарозе ў бальніцу памёр. Паводле папярэдніх звестак высветлена, што злачынства ўчыніў у час узаемнай бойкі 20-гадовы Г., які затрыманы.

### РЭХА ДАЛЁКАЙ ВАЙНЫ?

1 верасня супрацоўнікі Савецкага райаддзела міліцыі Мінска затрымалі ў гасцініцы "Спорт" Б., 1964 года нараджэння, жыхара горада Бендэры Прыднястроўскай вобласці, у якога знойдзена чатыры баявыя гранаты Ф-1 і адна РГД-5.



А тым часам супрацоўнікі органаў дзяржаўнай бяспекі сумесна з аддзелам па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю выявілі і затрымалі ў горадзе Оршы групу, якая вырабіла цэлы арсенал – 17 рэвальвераў. У затрыманых таксама аказаліся чатыры пнеўматычныя пісталеты і 18 пачкаў патронаў. Зброя канфіскавана.

### НАВІНЫ ПАХАВАЛЬНАГА СЕРВІСУ

Арыгінальную "навінку" вынайшлі пасля апошніх падзей на гарадскіх могілках у Віцебску (як вядома, там было ўчынена некалькі актаў вандалізму: за помнікамі тут цяпер будуць сачыць рабочыя мясцовага камбіната грамадзянскага абслугоўвання – зразумела, за грошы. Цікава толькі, за што будуць атрымліваць зарплату работнікі саміх могілак, якія па сваіх службовых абавязках павінны ахоўваць спакой тых, хто пайшоў у свет іншы.

### · ЛІФТ "НА ТРАІХ"

. 5 верасня каля 15 гадзін трое незнаёмых хлопцаў падпільнавалі і згвалтавалі ў ліфце жылога дома А., 14-гадовую вучаніцу 8 класа адной з мінскіх школ. Праз некалькі гадзін злачынцы былі знойдзены і затрыманы міліцыяй Маскоўскага раёна. Імі аказаліся дзесяцікласнік Р., васьмікласнік Е. і 16-гадовы К.

### "ТУСОЎКА" З САЛОМКАЙ

4 верасня супрацоўнікі УУС Мінгарвыканкама затрымалі на месцы злачынства – у адной з гарадскіх кватэр – студэнта 1-га курса БДУ, навучэнца ПТВ, 22-гадовага рабочага і 20-гадовага інваліда разам з гаспадыняй, якая нідзе не працуе. "Цёплая" кампанія займалася вытворчасцю наркатычнага рэчыва. У затрыманых выяўлена і адабрана 3 кг макавай саломкі, экстракт опію і медыцынскія шпрыцы. Вядзецца следства.

### МІЛІЦЫЯ ПАПЯРЭДЖВАЕ: БУДЗЬЦЕ АСЦЯРОЖНЫЯ!

Апошнімі днямі Мінск ускалыхнула новае жудаснае злачынства.

3 верасня сярод белага дня ў адным з жылых дамоў мікраёна Курасоўшчына невядомы згвалтаваў 7-гадовую дзяўчынку. Як паведамілі ў Кастрычніцкім РАУС, які расследуе гэты выпадак, пакуль на след злачынцы трапіць не ўдалося. Вядзецца прафілактычная работа ў школах і іншых дзіцячых установар.





Дзяжурны "Крымінальнага бюро" — Павел СІМАНАЎ, намеснік галоўнага рэдактара. Тэл.32-56-53.

# АДАМ І ЕВА

Падпіска—93. Наш індэкс 63129

Хрыстафор Калумб не быў маім сваяком, і таму я не адкрыю аніякіх Амерык, сказаўшы, што любое выхаванне пачынаецца і завяршаецца ў сям'і. А мы, здаецца, прыплылі... Сын паднімае руку на бацьку, маці прадае дачку сужыцелю, а ўнук гвалтуе сваю бабулю... Толькі нармальныя адносіны ў сям'і могуць выратаваць нас ад канчатковага вар'яцтва. І таму я, Наталля Стралкова, вядучы спецыяліст "Чырвонкі" па праблемах унутры – і пазасямейных адносін, перад тварамі сваіх чытачоў урачыста абяцаю: не пакідаць на волю лёсу маці і дачок, бацькоў і сыноў, свякрух і нявестак, адналюбаў і мнагажэнцаў, удзяляючы ім сваю ўвагу ў матэрыялах пад рубрыкай "У абдымках Гіменея". Гісторыі больш інтымнага плана, не абавязкова асвечаныя пячаткай у пашпарце, змесяцца пад рубрыкай "Адам і Ева". Дарэчы, паважаныя Евы даўно забыліся, што некалі ўтварыліся з рабрыны Адама. Ды і Адам – няма чаго граху таіць – сёння не паахвяраваў бы рабрыной у такіх карыслівых мэтах. Адам змяльчэў, і таму Еве часцяком прыходзіцца змагацца за месца пад сонцам у адзіночку. Хочацца неяк дапамагчы ёй, бедалазе, вырашыць свае шматлікія праблемы – працоўныя, медыцынскія, хатнія, асабістыя. На што і будзе скіравана рубрыка "Паміж намі, жанчынамі".

А зараз прашу адкласці газету ветэранаў грамадзянскай вайны і членаў прафсаюза з 17-га года. Прыкрыўшыся рубрыкай "Пра гэта", мы збіраемся займацца менавіта "гэтым" – палавым выхаваннем. Растлумачым вам, што такое эрагенная зона (дарэчы, яна знаходзіцца не на поўначы былога СССР, а значна бліжэй) і шмат чаго іншага. Асабліва рэкамендуем матэрыялы пад рубрыкай "Пра гэта" дзецям да 16-ці.

...Маральны кодэкс даўно састарэў. А рубрыка з такой назвай з'явілася ў нас зусім нядаўна. І мы не збіраемся з ёю развітвацца. Вельмі хочацца дапамагчы тым, хто волею лёсу трапіў у бяду: хворым і кінутым дзецям, маці-адзіночкам, людзям з парушанай псіхікай і тым, хто спрабаваў самастойна развітацца з жыццём...

І калі цябе, наш паважаны чытач, хвалююць пералічаныя (а яшчэ больш – непералічаныя) праблемы, выпісвай "Чырвоную змену" на наступны год.



Наталля СТРАЛКОВА, вядучая рубрык "Адам і Ева", "Маральны кодэкс". Тэл. 32-50-01

**Нярыцарскі раман**

# ЗАКАХАНЫ МУЖЧЫНА



*"Ён маўчаў, ну я і вырашыў спытаць яго, а якое ў яго хобі.*

*— Бабачкі,— адказаў ён не толькі сур'ёзна, але і змрочна.*

*— Матылі?*

*— Я з вамі па-беларуску гавару. Жанчыны."*

**Ул. Караткевіч.**

Яго цяжка назваць прыгожым. Хоць у мужчын у гэтым сэнсе свае крытэрыі. Можа, для каго і прыгожы. Гледзячы, на што звяртаць увагу... Адукацыя вышэйшая. Інтэлект — сярэдні. На ўзроўні дэтэктываў Агаты Крысці і песень Патрысіі Каас. Не ведаю, ці блытае Лёша "Бабеля з Бебелем і Гогаля з Гегелем", але аднойчы ў кампаніі ён расказваў анекдот, які пачаў так:"Едуць у машыне Ален Дэлон і Брыджыт Бардо. І раптам ён яму гаворыць..." Анекдот быў недурны, і таму ўсе смяяліся, тактоўна прапусціўшы міма вушэй прыналежнасць Бардо да мужчынскага полу. У невялікіх "дозах" з ім не сумна. Ветлівы, галантны, гаваркі, вясёлы... Але, пагаварыўшы з паўгадзіны, пачынаеш стамляцца, як стамляешся ад усяго, што не мае меры. "Што пахне занадта добра, тое пахне дрэнна",— кажуць французы. А яны ведаюць толк у пахах. Лёша салодкі да прыкрасці. Таму жанчыны глыбокія, якія тонка адчуваюць і разумеюць фальш, Лёшы не пад сілу. Ды ён і не імкнецца да такіх.

Дзякуючы суседству адносіны ў нас усталяваліся прыяцельскія. Не прэтэндую на звышадчувальнасць, але раскусіла яго за якія-небудзь дзесяць хвілін. Прынамсі, гэта было не складана: не люблю мужчын, якія стараюцца заваяваць прыхільнасць жанчыны расказамі пра былыя перамогі на асабістым фронце.

Самае галоўнае, пра што чамусьці ўсе заўсёды забываюць, — Лёша жанаты. Але да асноўнай тэмы нашай размовы гэта адносін не мае. Ці мае пастолькі-паколькі. Паколькі Лёшава жонка — гэта ў мінулым адна з тых легкадумных і самаўлюбёных істот, якіх яму ўдавалася без цяжкасцей спакушаць. "Істота" зацяжарыла, не дасягнуўшы ўзроставай адзнакі, устаноўленай законам для ўступаючых у шлюб. Лёша, на здзіўленне, лёгка здаўся, растлумачыўшы свой учынак тым, што "з ўсімі дзяўчатамі ўсё роўна не жэнішся, а адна жонка рана ці позна павінна з'явіцца". Зараз яна прасуе яму штаны выключна за аплату ў валюце і пляваць хацела на палюбоўніц мужа, усіх разам і паасобку. (А мы ж, дурніцы, робім тое самае бясплатна!).

— Лёша, ты бабнік?

— Бабнік — гэта калі з усімі, але без кахання. А я іх усіх кахаю. Не магу легчы ў ложак з жанчынай проста так, з цікаўнасці. Яна павінна мяне завесці. Калі я ёй спадабаўся, а яна мне — не, пра нейкія далейшыя адносіны не можа быць і размовы. Мне не патрэбна жанчына для калекцыі. Ці для задавальнення мужчынскага самалюбства, ці ў якасці фізічнай разрадкі. На выпадак апошняга, прабач, заўсёды ёсць жонка. Дрэнная, добрая — ноччу якая розніца? Мне падабаецца само пачуццё ўлюбёнасці. Безумоўна, яно не вечнае. Таму заўсёды трэба мець "запасны варыянт", каб гэты стан не знікаў.

— І ў колькіх жанчын ты можаш быць "закаханы" адначасова?

— Ты пытаешся, як быццам я жыву па нейкай праграме, плану... Іх можа быць дзве, можа быць пяць. Увогуле ў нармальнага мужчыны павінна быць "у актыве" як мінімум тры жанчыны: жонка, пастаянная палюбоўніца і часовая.

— А яны здагадваюцца пра існаванне адна адной?

— Ды не, навошта? Кожная жанчына ў душы марыць быць адзінай. Я гэта цудоўна разумею. І паводжу сябе з ёй так, каб яна ні на імгненне не ўсумнілася ў маім каханні, у тым, што, акрамя яе, мне ніхто не патрэбны. (У дадзены момант — Н.С.). Некаторыя сяброўкі месяцамі і нават гадамі існуюць побач і нават не здагадваюцца пра гэта. Жанчыны схільныя верыць таму, што ім гавораць, і гатовыя падманвацца бясконца доўга. Галоўнае — не "засвяціцца". Не пераблытаць імёны, напрыклад. Ці час сустрэчы. Ды я і не пешчу іх частымі сустрэчамі... Адным словам, гэта вышэйшы пілатаж. Затое ўсе задаволены.

Лёшаў "вышэйшы пілатаж" мне неаднойчы прыходзілася назіраць асабіста. Сумнае відовішча, калі ведаеш праўду. І даволі агіднае. Калі ўжо быць да канца шчырай, дык вышэйшым пілатажам тут і не пахне. Звычайнае ачмурэнне і без таго закаханай па вушы дурніцы. Прычым, на самым пошлым узроўні. "Ірачка, табе падабаецца шампанскае? Мне таксама. Дазволь, я вып'ю з твайго келіха?" (Выпівае, гледзячы ў вочы). О, Божа! Ну няўжо можна на гэта паддацца? Няўжо здольна жанчына настолькі сябе не паважаць? Ці ўсёпаглынальнае імкненне да кахання паглынае і рэшткі розуму, вартасці, гонару? Ці сурагат пачуцця для некаторых лепш за яго адсутнасць? Ці ўжо такія абдзеленыя нашы дзяўчаты цяплынёй і пяшчотай, што ледзь не любая гатова кінуцца за кожным, хто назаве яе імя з памяншальна-ласкальным суфіксам?

Але ёсць жа і ў Лёшы разумныя сяброўкі. Напрыклад, Алёна, урач-анестэзіёлаг рэанімацыйнага аддзялення. Да Алёны ён адносіцца "халаднавата" — без сіропу. І звоніць ёй толькі тады, калі ўсе астатнія "варыянты" адпадаюць. Не памятаю выпадку, каб Алёна адмовілася, хоць да Лёшы яна адносіцца даволі скептычна. Ен гэта адчувае і ў прысутнасці дзяўчыны мяняе "імідж". З абаяльнага веселуна ператвараецца ў рамантычнага героя, сур'ёзнага і задумлівага, які нават гаворыць разумныя рэчы. І трэба аддаць яму належнае, іграе ён з усёй адказнасцю. Часам я нават сумняваюся: а раптам гэта і ёсць Лёша — сапраўдны? А пачуцці — сур'ёзныя? Але зараз жа ганю ад сябе недарэчную думку. Прывесці любімую жанчыну апоўнач у чужую кватэру да незнаёмых людзей? Стамляць яе да дзвюх гадзін ночы сваёй балбатнёй? Прымушаць піць "на брудэршафт"? "Я больш не хачу",— гаворыць Алёна. "Ну, зайка, у апошні раз..."

Дудкі! Тут каханне і не начавала. Сапраўдных любімых не называюць "зайчыкамі", "кісачкамі", і да таго падобнай лухтой. Для іх прыдумваюць іншыя імёны.

... Алёна выходзіць са мной у суседні пакой і пытаецца:

— Як ты думаеш, у яго гэта сур'ёзна? У адносінах да мяне? Ну хоць больш ці менш?

Я гляджу ў задумлівыя вочы маладога медыцынскага работніка і думаю: калі ты бачыла сапраўдныя чалавечыя пакуты і боль, дык ужо як-небудзь разбярэшся. Сама. Каханне нельга імітаваць, нават калі вельмі моцна старацца. Ім трэба хварэць. Ты ж спецыяліст па хваробах, думай.

А ўслых, натуральна, кажу (вось ужо гэта наша невыкараняльнае імкненне да лжывага гуманізму!):

— Больш ці менш....

На наступную раніцу Лёша звоніць з пустой кватэры сваіх бацькоў і з мужчынскай непасрэднасцю (што мяжуе з балбатлівасцю) паведамляе:

— Яна нават не засталася начаваць. Прыйшлося выклікаць таксі... Бяздарны вечар... Ты ёй выпадкова нічога не расказала?

Пачуўшы адмоўны адказ, супакойваецца.

— А калі ў яе гэта сур'ёзна?— пытаюся.

— Ты не забылася, што я жанаты? Пачуццё абавязку вышэй за ўсё.

— А-а...

— Менавіта так.

— Слухай, а раптам ты калі-небудзь пакахаеш? Па-сапраўднаму?

— Гэта як? Адну і надоўга? Наўрад ці. Нуда зялёная. Пакуль мы маладыя, трэба браць ад жыцця ўсё.

— Можна ўзяць усё і застацца ні з чым...

— Ты выпадкова не была ў школе выдатніцай?

Пагаварылі... Відаць, яму мяне шкада. Мне яго — не. З якой нагоды? Затое дзяўчатам яго спачуваю. Не ўсім — сярод іх таксама нямала шукальніц прыгод. А толькі тым, хто ў сляпым імкненні да кахання аддае перавагу знешнім яго атрыбутам, форме, растрачвае сябе і сваю маладосць на пустых і абмежаваных мужчын. Безумоўна, дзяўчат можна зразумець — кожная спадзяецца на цуд. Але калі цуд прымушае занадта доўга сябе чакаць — ці варта ўвесь час сядзець з адчыненымі дзвярыма? Да таго ж баюся, што калі ў Лёшавым жыцці цуд і здарыцца, ён будзе не вельмі працяглым...

**Наталля Стралкова.**

Для нашых чытачоў "са стажам" ужо адны толькі назвы старонак – "Майстэрня", "Азбука здароўя", "Люстэрка" – гавораць самі за сябе. Як адрамантаваць дах дома, перафарбаваць рэч у хатніх умовах, сустрэць нечаканых гасцей, звязаць сабе модны джэмпер і пашыць спадніцу "апошні піск" і яшчэ шмат чаго іншага – усё гэта наша "Майстэрня", якая і надалей будзе вам першай памочніцай і дарадчыцай.

Усім вядома: здароўе – галоўнае багацце. Менавіта таму "Чырвонка" заўсёды памятае пра сваю ўжо трывалую старонку "Азбука здароўя". Ведаць усё пра лекавыя расліны, умець правільна карыстацца лекамі, стаць "хуткай дапамогай" сабе і сваім родным, ужываць толькі здаровую (і смачную) ежу – гэта стане магчымым толькі для таго, хто спасцігне "Азбуку здароўя".

Ну і, вядома ж, ваш знешні выгляд. Правільны догляд скуры твару і рук, адзенне "ў нагу з часам", лячэбная і дэкаратыўная касметыка, карысныя парады цырульніка – і вы будзеце непараўнальнымі, гледзячы ў наша "Люстэрка". Касметолагі, мадэльеры і цырульнікі стануць пастаяннымі ўдзельнікамі нашай старонкі і менавіта яны адкрыюць вам сакрэт "магіі прыгажосці".

Не развітвайцеся з "Чырвонкай".



Вядучая рубрык Наталля ПЛЫТКЕВІЧ, тэл. 32-50-01.

## ДЭСЕРТ З ГРУШЫ І ЛЕКАВЫ ЧАЙ З ЯБЛЫКАЎ

### ГРУША ЗВЫЧАЙНАЯ

Плады грушы ўтрымліваюць каля 84 працэнтаў вады, маюць нізкую энергетычную каштоўнасць, так што яны падыходзяць і для абмежавальнай дыеты. У пладах шмат калію, таму яны дзейнічаюць як мачагонны сродак. У сырым выглядзе грушы дрэнна пераўляюцца, таму іх лепш есці варанымі. Плады грушы ўтрымліваюць крыху натрыю і хлору, таму ўжываюцца ў бяссолевых дыетах. Акрамя таго, у яе пладах утрымліваюцца кальцый, магній, фосфар, крэмній і жалеза. Цукры ў ёй у асноўным фруктовыя — 6—13 працэнтаў, каля 1 працэнта пекціну, 0,2 працэнта кіслот. ёсць дубільныя рэчывы, ферменты і актыўныя элементы. Грушу рэкамендуецца ўжываць пры захворваннях сістэмы кровазвароту, нырак. Ужываць яе можна ў свежым або вараным выглядзе, можна піць грушавы сок у залежнасці ад індывідуальнага стану (арганізм не заўсёды яго пераносіць). Спалучэнне дубільных рэчываў і пекцінаў дзейнічае як ахоўны сродак на слізістыя абалонкі страўніка і кішэчніка. Груша асвяжае, добра ўздзейнічае на ачышчэнне кішэчніка, часткова садзейнічае паніжэнню павышанай тэмпературы.

У кулінарыі грушы можна выкарыстоўваць пры прыгатаванні дэсерту, для сушкі і далейшай пераапрацоўкі.

### ГРУШАВЫ ПІРОГ

*1 кг груш, 1 кг бульбы, 3 сталовыя лыжкі мукі, 1 л малака, 2 яйкі, 4 сталовыя лыжкі алею, соль.*

Грушы абабраць, разрэзаць на чвэрці і выразаць асяродкі, затым абсмажыць на алеі на патэльні або ў каструлі. Бульбу дробна нацерці, сок часткова зліць і астатнюю масу змяшаць з мукой, яйкамі і малаком, крыху пасаліць. Пюрэ з бульбы раскатаць і пакласці на грушы. Запякаць у духоўцы на малым агні каля дзвюх гадзін. Страва павінна быць хрусткай. Зверху пасыпаць цукар і карыцу. Ужываць пірог можна цёплым.

### ГРУША ПА-ЎСХОДНЯМУ

*4 вялікія грушы, 3 сталовыя лыжкі мёду, 1 сталовая лыжка здробненых грэцкіх арэхаў, драбок імбіру.*

Грушы абабраць, выразаць асяродкі, абмакнуць у сумесь мёду, арэхаў і імбіру. Затым палажыць на бляху і запякаць у духоўцы на слабым агні.

### ГРУША З КАРЫЦАЙ

*2 кг груш, 0,25 л вады, 0,5 л 8-працэнтнага воцату, 450 г цукру, крыху карыцы, 80 г гарчычнага насення, 40 г хрэну, некалькі гарошын чорнага перцу.*

Грушы абабраць, уздоўж разрэзаць і выразаць асяродкі. У ваду выліць воцат, дадаць цукар, карыцу і зварыць усё разам.

У гэты марынад пакласці грушы і хутка зварыць да мяккага стану. Затым дастаць грушы, сабраць карыцу, а фрукты пакласці ў вялікія слоікі, дадаць нарэзаны хрэн, гарчыцу і 5—10 гарошын чорнага перцу. Заліць астуджаным марынадам. Слоікі закрыць алюміневай фальгой. У такім стане грушы будуць стаяць доўгі час. Ужываюць грушы, як і агуркі, як пікантны гарнір да мяса. Гэта стары рэцэпт, які быў вядомы яшчэ ў XIX стагоддзі.

### ГРУШАВЫ КАМПОТ

Груша павінна быць цвёрдай.

*Сіроп: 1 л вады, 200—300 г цукру, 1 г лімоннай кіслоты.*

Памытыя грушы абабраць, разрэзаць уздоўж папалам або на чвэрці, дастаць асяродак і акунуць у падкісленую ваду, каб груша не пацямнела. Дастаць фрукты, даць сцячы вадзе, скласці ў слоік і заліць гарачым сіропам. На слоік пакласці накрыўку і стэрылізаваць пры тэмпературы +85° 25—30 мінут. Кампот можна камбінаваць з вішняй, малінай, ажынай або бузіной.

### СУШКА ГРУШ

Для гэтай мэты выкарыстоўваюць летнія салодкія грушы. Сушыць іх можна цалкам або абабранымі, разрэзанымі папалам або на 4 часткі. Сушыць спачатку трэба ў духоўцы пры сярэдняй тэмпературы, затым пры тэмпературы 80 °. Пасля заканчэння сушкі грушы можна змяльчыць у парашок і выкарыстоўваць яго для пасыпання блінчыкаў, ватрушак, пірагоў і фруктовых або тварожных кнэдлікаў (варэнікаў).

## ЯБЛЫНЯ ДАМАШНЯЯ

Штогод чалавек павінен ужываць 35 кг яблыкаў, а па магчымасці і больш. Яблыкі ў залежнасці ад сорту маюць розны хімічны састаў. Яны ўтрымліваюць цукры (цукрозу, фруктозу, глюкозу), яблычную



і лімонную кіслату (0.2—1.6 працэнта), дубільныя, а таксама мінеральныя рэчывы, галоўным чынам калій і магній, фосфар, кальцый, натрый, жалеза, серу, марганец. Яблыкі — каштоўная крыніца пекцінавых рэчываў, якія падтрымліваюць добры апетыт. Гэтыя ферменты паскараюць страваванне. Ёсць карацін, вітаміны групы В. І хоць вітамінаў у нашым асноўным фрукце мала, яблыкі маюць вялікае лекавае значэнне. Іх ужываюць больш у сырым выглядзе. Яблыкі выкарыстоўваюць у разгрузачных дыетах, калі на працягу дня кожныя дзве гадзіны трэба з'есці адзін вялікі яблык (гэта добра для мачагоннага эфекту, а таксама пры парушэннях кровазвароту). Лекавы чай гатуюць з яблычных лупін. Ён супакойвае нервы, падтрымлівае пры лячэнні рэўматызму, хваробах печані, нырак. Калі яблычны морс піць нашча, ён дапамагае пры запорах.

З яблыкаў можна гатаваць шмат мучных вырабаў, гарніраў. Пюрэ з печаных яблыкаў служыць састаўной часткай мясных страў. Дзецям яблыкі ўзбіваюць міксерам альбо труць з морквай, лімонным сокам і мёдам.

### МУС "БІРГЕРА"

*1 сталовая лыжка аўсяных шматкоў, 1 сталовая лыжка смятаны, 1 чайная лыжка мёду, 200 г яблыкаў, 50 г арэхаў (порцыя на 1 чалавека).*

Шматкі замачыць на ноч у 3 сталовых лыжках вады. Раніцай дадаць смятану, мёд, нацёртыя яблыкі і ўсё перамяшаць. Пасыпаць арэхамі. Гэта карыснае снеданне для людзей разумовай працы, дзяцей і пажылых людзей.

### ЯБЛЫЧНЫЯ ПРЫСМАКІ

*500 г яблыкаў, 250 г цукру, лімонная лупіна і сок.*

Абабраныя яблыкі разрэзаць, выкінуць асяродак і, паліўшы вадой, тушыць, пакуль яны не стануць мяккімі. Масу працерці (ці ўзбіць міксерам), у кашку дадаць цукар, лімонную лупіну і варыць да ўтварэння густой масы. Затым выціснуць на прамасленую паперу розныя формачкі, упрыгожыць іх міндалем або шакаладам і пасыпаць крышталікамі цукру. Падсушыць. Для гэтых мэт падыдуць менш якасныя, кіслыя яблыкі.

### СУШКА ЯБЛЫКАЎ

Вымытыя яблыкі абабраць, выкінуць асяродак, пладаножку, заліць халоднай вадой з растворанай лімоннай кіслатой (палова чайнай лыжкі на 1 л вады), каб яблыкі не пацямнелі. Затым нарэзаць яблыкі кольцамі і сушыць у духоўцы пры сярэдняй тэмпературы або нанізаць іх на ніткі і сушыць над плітой або батарэяй.

### ЯБЛЫЧНЫЯ ДОЛЬКІ ВА ЎЛАСНЫМ СОКУ

*1 сталовая лыжка цукру на 1 кг яблыкаў.*

Яблыкі абабраць, выкінуць асяродак, пладаножку. Заліць падкісленай вадой. Затым хутка парэзаць на кружочкі таўшчынёй каля 3 мм. Перамяшаць з невялікай колькасцю цукру і пакласці ў слоікі. У слоік (0,7—0,9 л) заліць паўстакана вады. Стэрылізаваць пры тэмпературы +85° 30 мінут. Выкарыстоўваюць і рыхтуюць ападышы і нестандартныя яблыкі такім жа спосабам у якасці паўфабрыкату для пірага-рулета, для булачак з яблыкамі і для іншых мучных вырабаў.

## РАБІНА ЧАРНАПЛОДНАЯ

Плады паспяваюць у верасні, і, калі птушкі не склююць, яны могуць заставацца на дрэве два месяцы. І пасля збору ўраджаю плады вельмі доўга захоўваюцца. Ягады велічынёй у 1 см маюць лаўкі, саладкаваты смак.

Чарнаплодная рабіна ўтрымлівае перш за ўсё вітамін С — прыкладна ў такой колькасці, як лімон, карацін. Цукар, які знаходзіцца ў ёй (да 14 працэнтаў), лёгка засвойваецца дыябетыкамі. Чарнаплодная рабіна валодае лекавым эфектам, яна жаўцягонная (таму падыходзіць у якасці дапаўнення для прадуктаў, што цяжка пераўліваюцца), умерана паніжае крывяны ціск. Ягады можна выкарыстоўваць у сырым і нават замарожаным стане. Для кансервавання, галоўным чынам, для кампотаў, ягады збіраюць у верасні. Чарнаплодную рабіну можна сушыць, з яе гатуюць кампоты, сіропы, сокі, лікёры, джэмы, часта ў сумесі з бузіной.

### КАМПОТ З ЧАРНАПЛОДНАЙ РАБІНЫ

*1 кг рабіны, 500 г цукру, 0,3 л вады.*

Рабіну пачысціць, прамыць, прасушыць. У каструлю засыпаць цукар з вадой, зварыць сіроп, а затым насыпаць рабіну. Варыць яе на ўмераным агні да размякчэння. Пасля гэтага шумоўкай дастаць ягады, засыпаць іх у слоік і заліць сокам. Слоік шчыльна закрыць, перакуліць уверх дном або стэрылізаваць пры тэмпературы +85° 15 мінут.

Кампот можна спалучаць з яблыкамі і бузіной у адпаведнасці 1:1.

### РАБІНАВЫ ДЖЭМ

*1 кг рабіны, 500 г цукру.*

Пачышчаную прамытую рабіну засыпаць у каструлю, падліць ваду і, памешваючы ўвесь час, варыць. Калі ягады стануць мяккімі, дадаць цукар і варыць да поўнага выпарэння вады, але плады не павінны быць разваранымі. Затым гарачую масу разліць у слоікі, хутка шчыльна закрыць і перакуліць уверх дном або стэрылізаваць пры тэмпературы +95° 15 мінут.

По матэрыялах кнігі Д.Ланска "З лесу і агарода з вясны да зімы" падрыхтавала Н.ПЛЫТКЕВІЧ.



# ГАРЧЫЧНІК



# СОННІК ад "А" да "Я"

## (кароткі дапаможнік у сістэме палітасветы)

### "А"

Абвал — чарговае павышэнне цэн

Аб'едкі — гуманітарная дапамога

Абрус — статус бежанца

Агітплакат — удзел у рэферэндуме

Акрабатыка — парламенцкія дэбаты

Ампутацыя — поўная незалежнасць

Ананас — народная ўлада

Алфавіт — размова на роднай мове

Апладысменты — настальгія па застою

Архітэктар — перабудова перабудовы

Аўтамат — сур'ёзная размова

Ахілесава пята — рынячныя адносіны.

**В.РЭХАЎ.**

Васіл Цонеў



# ПРЫВІД

## НОВЫЯ ПРЫГОДЫ ШЭРЛАКА ХОЛМСА

Дзверы са скрыпам адчыніліся, і ў кабінет знакамітага дэтэктыва ўвайшоў грамадзянін у пакамечаным адзенні, з раскудлачанымі валасамі і вытарашчанымі вачыма:

— Прывід!

— Дзе? — спакойна спытаў Холмс.

— У маім замку.

— Маеце замак?

— Так. Учора купіў. І роўна ў дванаццаць, апоўначы, з'явіўся прывід.

— І?

— Ён кінуўся бегчы з крыкам на вуліцу, а я цэлую ноч спаў на дрэве ў парку.

Холмс задумаўся, потым сказаў:

— Мда-а-а-а...

— Што?

— Вось што. Дайце мне, калі ласка, ключ ад замка, а самі паспіце ў маім доме.

...Біг Бэн прабіў дванаццаць.

Поўнач.

Холмс, які ўладкаваўся ля каміна ў замку і чытаў, уздрыгануўся — перад ім стаяў прывід. Гэта была на выгляд васемнаццацігадовая, даволі прыгожая, босая, у белай начной кашулі дзяўчына. Валасы ў яе былі доўгія і русыя, а вочы — блакітныя.

— Чым магу быць карысным? — спытаў Холмс.

— Разумееце, — сказаў дрыжачым голасам пачырванелы прывід. — Я з'яўляюся адной з былых гаспадынь гэтага замка, і — па праўдзе кажучы — мне балюча. Памяркуйце самі. На даху тры разбітыя чарапіцы, кухню запаланілі тараканы, а ў падвале капае з адзінага крана... Вядома, я хачу расказаць пра гэта новаму гаспадару, але ён чамусьці мяне пазбягае.

— Мда-а-а-а, — кіўнуў Холмс, зрабіўшы запіс аб пачутым. — Прабачце, але чаму вы замест былой гаспадыні раптам ператварыліся ў прывіда?

Прывід пачырванеў яшчэ болей:

— Але ж вы ведаеце...

— Што?

— Прывідам становяцца толькі тыя дзяўчыны, да якіх не дакраналася рука мужчыны...

На другі дзень Холмс растлумачыў гаспадару:

— Наверсе, пан, разбіты тры чарапіцы, кухня апанавана тараканамі, у падвале цячэ адзіны кран. А што датычыць самога прывіда — то не хвалюйцеся — ён больш вас не патурбуе.



*Слова да чытача*

# ХТО СМЯЕЦЦА АПОШНІМ

„Сумна жыць на гэтым свеце, спадары". Прыгадваеце, хто сказаў? Класік. Даўно, вядома, але ж гучыць па-сучаснаму. Сапраўды, чаго весяліцца, калі наўкол развал, інфляцыя, абдзіралаўка, спекуляцыя, падзенне нораваў і яшчэ трыццаць тры балячкі...

Яно, канечне, так, відаць, пагодзіцца чытач, аднак няўжо на тым свеце будзе весялей? Наўрад ці. Вядома ж, чалавецтва засталося жыць на планеце таму, што смяялася. І нам не застаецца нічога іншага.

Калі гэтую глабальную праблему крыху звузіць, то выхад адзіны – паспадзявацца на аддзел сатыры і гумару сваёй любімай газеты – "Гарчычнік". Сярод усеагульнага суму, клопатаў, мітусні і нервовасці ўсяго раз на тыдзень пакладзіце сабе на душу гэты аддрукаваны бальзам – і вы адчуеце, як вакол палягчэла, пасвятлела, пахарашэла, павесялела, падабрэла, і вось ужо нехта зарагатаў. Аказваецца, гэта – вы!

Вось вам і "Гарчычнік"! А калі да яго як след дадаць сатырычнага жару ды плеснуць хваляй гумару – уяўляеце, якая атрымаецца гаючая банька?

Аднак трэба адразу дамовіцца: дроўцы для яе павінны рыхтаваць нашы чытачы. А ўсё астатняе – бяром на сябе. А гэта значыць, усе вашы дасланыя ў "Гарчычнік" гумарэскі, вершы, жарты, усмешкі, фельетоны ці асобныя факты, пародыі, афарызмы, малюнкі і фотаздымкі абавязкова з'явяцца ў нашых штотыднёвых выпусках. Вядома, калі яны будуць вартыя грамадскага смеху.

У такім разе гарантуем ім зялёнае святло на ўсіх творчых скрыжаваннях. Таму і заклікаем:

Пішыце!

Дасылайце!

Тэлефануйце!

І памятайце прымаўку: добра смяецца той, хто смяецца апошнім. Мы ж прапануем смяяцца разам, пакідаючы апошняе слова за чытачамі.

Хто пачне?



"Прэзідэнт" "ГАРЧЫЧНІКА" Вячаслаў ГІЛЕВІЧ. Тэл. 32-13-04.




# МУЖЧЫНА — *Гумарэска*

— Мужчына, — пачуў Цвіркуноў голас ззаду, пасля чаго яму ціха пастукалі ў плечы. — Вы апошні?

Ён павярнуўся і пацвердзіў падышоўшай жанчыне сваё месца ў чарзе.

Праз паўгадзіны задаволены Цвіркуноў пакінуў магазін з паласатым, нібы піжама, кавуном і паспяшаўся дамоў.

— Мужчына, — пачуў ён жаночы голас. — Дзе вы бралі кавун?

Цвіркуноў з натхненнем расказаў пра геаграфію набыцця кавуна і, нырнуўшы ў падземны пераход, неўзабаве ўзнік насупраць магазіна гаспадарчых тавараў.

— Мужчына, куды? — спыніла яго дзяўчына за дзвярыма, тыцнуўшы пальцам у паперку, якая абвяшчала, што ў магазіне абедзенны перапынак.

Цвіркуноў развярнуўся на 180 градусаў і пашыбаваў у ранейшым напрамку.

— Мужчына, — спынілі яго дзве модныя дзяўчыны, — ці не знойдзецца цыгарэткі?

— Кінуў, — стральнуў вачыма на іх Цвіркуноў. — І вам таксама раю.

Дома ён паклаў на кухонны стол памыты кавун і збіраўся ўжо паласнуць прыгажуна нажом, як пачуў незадаволены голас жонкі:

— Другі тыдзень прашу яго выбіць дыван, а ён сабе нават і вухам не вядзе. Паслаў Бог пакаранне на маю галаву. Ці ёсць у рэшце рэшт у гэтай хаце мужчына?!

"Дажыўся! — падумаў з крыўдаю Цвіркуноў, з хрустам разваліўшы кавун папалам. — Ужо не мужчына. І гэта праз дзесяць гадоў сумеснага жыцця пад адзіным дахам. А што будзе, калі адгуляем залатое вяселле?"

**Вячаслаў ГІЛЕВІЧ.**

Дзяжурны рэдактар С. БАЛЦЭВІЧ. Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА.

ЧЫРВОНАЯ Змена

Заснавальнік: ЦК СМБ
Выдавец: газетна-выдавецкая фірма "Белая Русь"
Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.
АДРАС рэдакцыі: 220041, г.Мінск, праспект Скарыны, 77.
ТЭЛЕФОНЫ: 32-13-54, 32-50-01.

Газета набрана і звярстана ў наборна-выдавецкім бюро "ЧЗ".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", г. Мінск.
Індэкс 63906. Тыраж 17 000.

Галоўны рэдактар Уладзімір БЕЛЬСКІ.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Алена АГІБАЛАВА, Сяргей БАЛЦЭВІЧ (адказны сакратар), Валерый ВАРАНЕЦКІ, Валерый ІВАНОЎ, Алег КАМІНСКІ (першы нам. гал. рэдактара), Віктар ЛЮКОВІЧ, Мікалай ЛАРКОВІЧ, Алесь МАСАРЭНКА, Станіслаў НІЧЫПАРОВІЧ, Алесь ПАЛЫНСКІ, Наталля ПЛЫТКЕВІЧ, Павел СІМАНАЎ (нам. гал. рэдактара), Алег СЛУКА, Наталля СТРАЛКОВА, Кузьма ШАПЛЫКА.

*Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзеных фактаў, цытат, эканамічных звестак, асабістых імён, геаграфічных назваў і іншай інфармацыі, а таксама за тое, каб у матэрыялах не ўтрымлівалася звестак, якія не падлягаюць адкрытай публікацыі. Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара.*

*Рэдакцыя рукапісы не рэцэнзуе і не вяртае.*

Рэдакцыя газеты "Чырвоная змена" прымае заказы на змяшчэнне аб'яў, рэкламы. Даведкі па тэлефонах 32-12-82,32-50-01.

Зак. № 37.
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12